

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# Літаратура і Мастацтва

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

ПЯТНІЦА, 23 чэрвеня 1989 г. № 25 (3487) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.


# ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ПАВЕДАМЛЕННЕ

## аб пленуме Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі

**22 чэрвеня адбыўся XIII пленум Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі.**

**Пленум разгледзеў пытанне «Аб узмацненні ўплыву партыйных камітэтаў і арганізацый на грамадска-палітычную абстаноўку ў рэспубліцы на сучасным этапе перабудовы». З дакладам Бюро Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі па гэтаму пытанню выступіў першы сакратар ЦК КПБ Я. Я. Сакалоў.**

**Адбыліся спрэчкі па дакладу. Па абмеркаванаму пытанню прынята пастанова.**

**На пленуме разгледжана арганізацыйнае пытанне.**

**У сувязі са стварэннем у адпаведнасці з установкамі XIX Усесаюзнай партыйнай канферэнцыі новай структуры апарату ЦК Кампартыі Беларусі пленум зацвердзіў загадчыкамі аддзелаў ЦК КПБ: арганізацыйна-партыйнай і кадравай работы — В. І. Борыса, ідэалагічнага — С. Я. Паўлава, сацыяльна-эканамічнага — Б. А. Макейчанку, машынабудавання — В. Д. Бысенку, аграрнага — М. Р. Вайцянкова, дзяржаўна-прававога — В. А. Сукалу, агульнага аддзела — Г. Г. Яршова. Старшынёй Камісіі партыйнага кантролю пры ЦК КПБ пленум зацвердзіў В. Ц. Галавана, кіраўніком спраў ЦК КПБ — У. Л. Паўлюкевіча.**

**У сувязі з выбыццём за межы рэспублікі вызвален ад абавязкаў члена Бюро ЦК КПБ У. М. Шуралёў. В. В. Гурын вызвален ад абавязкаў кандыдата ў члены Бюро ЦК КПБ у сувязі з пераходам на іншую работу.**

**У рабоце пленума прынялі ўдзел адказарганізатар Аддзела партыйнага будаўніцтва і кадравай работы ЦК КПСС Г. П. Мешчаракоў і інструктар гэтага ж аддзела М. А. Мачуленка.**

**Матэрыялы пленума будуць апублікаваны ў друку.**

*XIII ПЛЕНУМ ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА КАМПАРТЫІ БЕЛАРУСІ*

# АБ УЗМАЦНЕННІ ЎПЛЫВУ ПАРТЫЙНЫХ КАМІТЭТАЎ І АРГАНІЗАЦЫЙ НА ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНУЮ АБСТАНОЎКУ Ў РЭСПУБЛІЦЫ НА СУЧАСНЫМ ЭТАПЕ ПЕРАБУДОВЫ

## *Даклад Бюро Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі*

Паважаныя таварышы!

Гісторыя нашай краіны не ведала падзеі, настолькі прыкаваўшай да сябе ўвагу мільёнаў людзей, як З'езд народных дэпутатаў СССР. Пачаўшы закладку фундамента прававой дзяржавы, ён цвёрда выказаўся за паглыбленне перабудовы, за дэмакратычнае абнаўленне сацыялізму, арыентацыі ўсіх яго праяўленняў на чалавека, на сапраўднае народаўладдзе.

Вынікі напружаных і адкрытых дыскусій на З'ездзе і ў ходзе перадвыбарнай кампаніі паказалі, што адзінай рэальнай палітычнай сілай, здольнай забяспечыць перамены ў грамадстве, развіць і прымножыць закладзеныя ў самой прыродзе сацыялізму гуманістычныя каштоўнасці, была і застаецца ленінская партыя. Адсюль заканамерны вывад аб неабходнасці павышэння ролі і адказнасці кожнага яе атрада, кожнай партыйнай арганізацыі, кожнага камуніста.

Перабудова, якая адкрыла неабмежаваныя магчымасці для сацыяльнай творчасці, адначасова паставіла і абвастрыла нямала праблем, многія з якіх накопліваліся дзесяцігоддзямі.

На жаль, не ўсе члены Бюро ЦК КПБ, урада рэспублікі, не ўсе міністэрствы і ведамствы, мясцовыя партыйныя і савецкія органы ўлады былі гатовы актыўна ўключыцца ў іх вырашэнне. Запатрабаваліся час і намаганні, каб асэнсаваць пытанні, вызначыць пазіцыі і мэты.

ЦК Кампартыі Беларусі і Савет Міністраў БССР прынялі рад кардынальных мер, накіраваных на вырашэнне вострых сацыяльна-эканамічных і палітычных праблем. Я маю на ўвазе ажыццяўленне эканамічнай рэформы, падрыхтоўку да пераходу на прынцыпы тэрытарыяльнага самакіравання, павелічэнне вытворчасці, павышэнне якасці прадуктаў харчавання, тавараў народнага спажывання, расшырэнне аб'ёмаў жыллёвага будаўніцтва, экалогію, развіццё беларускай культуры і мовы, рэабілітацыю бязвінна пацярпеўшых у гады культу асобы, многія іншыя пытанні.

Па кожнаму напрамку распрацаваны канкрэтныя праграмы, вызначаны сілы і сродкі. Рэалізацыя гэтых праграм патрабуе аб'яднання намаганняў партыйных, савецкіх, гаспадарчых органаў, усіх працоўных калектываў, усіх слаёў нашага грамадства.

Між тым факты сведчаць, што рад партыйных камітэтаў і арганізацый — а іменна яны закліка765 быць інтэгруючай сілай — адстае ад працэсаў, якія адбываюцца ў жыцці, упускае час, страчвае здольнасць аказваць на іх пазітыўнае ўздзеянне.

Многія кадры на месцах па ўкаранелай прывычцы чакаюць указанняў, не праяўляюць ініцыятывы, у выніку спазняюцца з перабудовай арганізатарскай і палітычнай работы, абнаўленнем яе форм і метадаў. У радзе месц прыметна аслабленне партыйнай адказнасці. У некаторых калектывах зніжаецца працоўная і выканаўчая дысцыпліна. Не можа не трывожыць нас і становішча з грамадскім парадкам, нігілізм часткі насельніцтва.

### I.

Сёння, калі дэмакратызацыя грамадскага жыцця вызваляе людзей з акоў апатыі і раўнадушнасці, параджае хваляванне розумаў, сутыкненне пазіцый і думак, для партыйных камітэтаў і арганізацый як ніколі раней актуальны ленінскі наказ: «...Весці пры ўсіх умовах, пры ўсякіх акалічнасцях, пры ўсялякіх становішчах сваю п а р т ы й н у ю лінію, уздзейнічаць на асяроддзе ў духу ўсёй партыі, а не даваць асяроддзю паглынуць сябе». (Поўны збор твораў, т. 17, с. 364).

Не будзе перабольшаннем сказаць, што ў ходзе ажыццяўлення паслякрасавіцкага курсу КПСС партыйныя камітэты і арганізацыі ў цэлым узбагаціліся новым вопытам уплыву на масы, мабілізацыі іх на вырашэнне наспеўшых праблем.

У канцэнтраваным выглядзе моцныя і слабыя бакі нашай работы асабліва наглядна праявіліся ў ходзе выбарчай кампаніі. У ёй прайшлі сур'ёзную праверку аўтарытэт і дзеяздольнасць усіх звенняў рэспубліканскай партарганізацыі.

Галоўны палітычны вынік выбараў у тым, што працоўныя рэспублікі падтрымалі курс партыі на перабудову. Разам з тым выклікае неспакой тое, што ў ліку дэпутатаў мала рабочых, калгаснікаў, моладзі, жанчын. Нявыбранымі аказаліся некаторыя партыйныя, савецкія работнікі, гаспадарчыя кіраўнікі.

У чым жа справа? Гавораць: падвялі агітатары, вялі работу па-старому. А хто перашкаджаў дзейнічаць па-новаму? Гавораць: некаторыя кандыдаты ў народныя дэпутаты сустракаліся толькі з актывам. А чаму не сустракаліся з радавымі выбаршчыкамі? Гавораць: праявілі пасіўнасць давераныя асобы. А як магло здарыцца, што ў ліку давераных асоб аказаліся пасіўныя людзі?

На гэтыя і іншыя пытанні мы не адкажам, калі не ўсвядомім, што ўступілі ў новы этап не проста палітычнай работы, а палітычнай барацьбы з усімі зыходзячымі адсюль вынікамі. Іменна гэту акалічнасць не ўлічылі і мы ў Цэнтральным Камітэце КПБ, не ўлічылі многія партыйныя камітэты і арганізацыі на месцах.

Палітычная барацьба падразумявае дакладнае размежаванне сіл. Хто ж выступае з нападкамі на партыю, супраць яе кадраў, супраць рада палажэнняў Канстытуцыі СССР? Якое іх сапраўднае палітычнае аблічча?

Перш чым адказаць на гэтыя пытанні, хацеў бы сказаць вось аб чым. Мы пазітыўна адносімся да шматлікіх самадзейных аб'яднанняў, намаганні якіх адпавядаюць духу, рашэнням XXVII з'езда КПСС і XIX партканферэнцыі, накіраваны на захаванне і прымнажэнне фундаментальных сацыялістычных каштоўнасцей. Яны дапамаглі нам лепш убачыць многія болевыя месцы.

Але мы не прымаем пазіцыю тых, хто магчымасці дэмакратызацыі, публічнасці выкарыстоўвае для распальвання нездаровых настрояў, дэстабілізацыі абстаноўкі, дыскрэдытацыі лініі партыі, усяго таго, што зроблена розумам, рукамі нашага народа.

Нельга забываць і тое, што ў саставе аб'яднанняў нават экстрэмісцкага толку ёсць людзі, якія заблудзіліся і слепа за кімсьці ідуць. Мы павінны дапамагчы ім усвядоміць памылку, стаць на правільны шлях, узмацніць уплыў на іх праз камуністаў, ветэранаў партыі, вайны і працы, праз камсамольцаў.

Іменна так і дзейнічае Гродзенскі гарком партыі. Тут адкрыта абмяркоўваюць вострыя праблемы, выяўляюць і супастаўляюць розныя пункты погляду, прымаюць дапушчальныя кампрамісныя рашэнні. У час сустрэч і гутарак кіраўнікоў горада з лідэрамі самадзейных аб'яднанняў акцэнт робіцца на пошуку шляхоў згуртавання сіл у імя стварэння. Гэта дазваляе своечасова зняць канфліктныя сітуацыі.

Па такому ж шляху ідуць і некаторыя іншыя партыйныя камітэты рэспублікі. Актывізацыя гэтай работы выявіла таксама і тых, каго не задавальняюць прымаемыя меры. Іх не задавальняе, што работа ў нас вядзецца на канструктыўнай аснове. Ім патрэбна канфрантацыя. Пранікаючы ў працоўныя калектывы, выкарыстоўваючы яўны падман, выдумкі і чуткі, яны спрабуюць, і часам небеспаспяхова, уздзейнічаць на асобную частку людзей, сеяць у іх недавер'е да партыі, органаў улады, да сацыялізму.

У апошні час робяцца спробы ўтварыць структуру экстрэмісцкай накіраванасці. Аднак ініцыятары яе стварэння адмовіліся прадаставіць Прэзідыуму Вярхоўнага Савета БССР праекты праграмных дакументаў. Чаму? Ці не таму, каб скрыць свае намеры, якія мала чаго агульнага маюць з перабудовай?

Такое сцвярджэнне заснавана на выказваннях некаторых членаў «Аргкамітэта» і ў маладзёжных аўдыторыях, і ў інтэрв'ю, і ў публікацыях самвыдаўскіх выпускаў, якімі яны раз-пораз «радуюць» па-экстрэмісцку настроеных чытачоў. Аналіз падобнага роду матэрыялаў і дае дакладнае ўяўленне аб палітычным абліччы гэтых людзей.

Яны ігнаруюць кіруючую ролю КПСС, спрабуюць аб'явіць свой рух самастойнай, па сутнасці альтэрнатыўнай партыі палітычнай структурай, рэкламуюць сябе ў якасці адзінай сілы, здольнай ажыццявіць перабудову; на словах прызнаюць федэрацыю, на справе ж выступаюць за канфедэрацыю, за разбурэнне СССР — нашага агульнага дома; грэбуюць савецкімі законамі, штурхаюць людзей на прававы нігілізм, на непадпарадкаванне распараджэнням мясцовых органаў улады.

Яны супраць канструктыўнага, паважлівага абмену думкамі па вострых праблемах нашага жыцця, вельмі часта, у самых розных аўдыторыях звяртаюцца да нядобрасумленных прыёмаў. Крыкі, свіст, тупат, іншыя дзікія формы абструкцыі, вырыванне з рук апанентаў мікрафона сталі для іх нормай паводзін на сходах і мітынгах.

(Працяг на стар. 2).

(Пачатак на стар. 1).

У дэмакратыі ім хочацца бачыць слабасць улады. Дыялектыка ж, узаемасувязь яе складаемых прадугледжвае абавязковую рэгламентацыю ўсіх аспектаў грамадска-палітычнага жыцця. Натуральна, праз уласцівыя сапраўднай дэмакратыі механізмы: рэалізацыю волі большасці, правоў і свабод асобы, разнастайнасць думак, дзейнасць грамадскіх арганізацый і г. д.

Карацей кажучы, выпрабаванне дэмакратыяй, якое мы ўсе цяпер праходзім, патрабуе ўзважанасці ва ўчынках і дзеяннях, патрабуе мудрасці. Аб гэтым гаварыў нядаўна на сустрэчы народных дэпутатаў з выбаршчыкамі народны мастак СССР Міхаіл Андрэевіч Савіцкі. Нельга не згадзіцца з ім у тым, што пераадоленне ўзнікшых цяжкасцей у эканамічнай і духоўнай сферах магчыма толькі на аснове кансалідацыі ўсіх здаровых сіл грамадства на галоўных напрамках яго развіцця, на аснове сацыялістычных каштоўнасцей, адраджэння культуры, маралі, гуманізму.

Працоўныя ў сваёй абсалютнай большасці не падзяляюць поглядаў і імкненняў па-экстрэмісцку настроеных асоб. Рэзалюцыі сходаў працоўных калектываў з рэзкім асуджэннем іх пазіцый паступаюць у ЦК КПБ, Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР, мясцовыя партыйныя і савецкія органы. Нашы людзі занепакоены, патрабуюць у гэтых рэзалюцыях не дапусціць развіцця падзей, падобных падзеям у радзе рэгіёнаў краіны. Вось чаму палітычную работу па аргументаванаму выкрыццю мэт гэтага «руху» трэба ўзмацніць. Грамадскасць павінна ведаць, хто, прыкрываючыся дэмакратычнымі лозунгамі, імкнецца сарваць працэс абнаўлення, штурхнуць масы на шлях беззаконнасці і анархіі.

У апошні час аб'ектамі павышанай увагі аб'яднанняў экстрэмісцкага толку становяцца працоўныя калектывы, сродкі масавай інфармацыі, ВНУ, тэхнікумы і ПТВ, творчая і навуковая інтэлігенцыя. Задачы ставяцца зусім пэўныя: падрыў аўтарытэту партыйных і савецкіх органаў, актывізацыя работы сярод тых, хто незадаволен, хто не знайшоў сябе ні ў жыцці, ні ў працы.

У гэтых умовах выклікае здзіўленне пазіцыя асобных партыйных камітэтаў і арганізацый, камуністаў-кіраўнікоў. У прыватнасці, партарганізацыі акадэмічных Інстытута гісторыі, Інстытута філасофіі і права, Інстытута фізікі чакаюць, праяўляюць палітычную беспрынцыпнасць да асобных камуністаў, навуковых супрацоўнікаў, якія сталі на шлях канфрантацыі, па сутнасці займаюцца падбухторваннем. Такія дзеянні не заўсёды атрымліваюць адпаведную ацэнку і з боку парткома Акадэміі навук БССР.

Камуніст не можа вызнаваць дзве «веры», дзве ідэалогіі. Трэба даваць строгую, бескампрамісную ацэнку членам партыі, якія дапускаюць адход ад лініі, выпрацаванай XXVII з'ездам КПСС і XIX Усесаюзнай партканферэнцыяй. Трэба пазбаўляцца ад палітычнай наіўнасці, чаканняў, што ўсё ўладкуецца само сабой.

Неабходна задумацца, чаму групы экстрэмісцкага толку галоўны ўдар накіроўваюць на кіруючыя кадры. У час выбараў супраць іх, як правіла, сумленных і адданых справе партыі, справе сацыялізму работнікаў, была разгорнута раз'юшаная прапаганда. Прымяняліся нават недазволеныя метады, ім прад'яўляліся надуманыя і несправядлівыя абвінавачанні, іх абгаворвалі і ўзводзілі паклёп.

Нярэдка эмоцыі бралі верх над разважным сэнсам. Супраць партыйных работнікаў агітавалі злосна, звяртаючыся да перакручвання фактаў, рознага роду выдумак.

Ну, а як павялі сябе ў гэтай, у многім неардынарнай сітуацыі партыйныя арганізацыі? Некаторыя не толькі не знайшлі, але і не шукалі новых падыходаў, эфектыўных прыёмаў работы з людзьмі, здольных развянчаць розных дэмагогаў.

Вынікі выбарнай кампаніі, новая палітычная сітуацыя патрабуюць адмовіцца ад непрыгоднай практыкі, калі агітатарская і агітацыйная работа вядзецца галоўным чынам з тымі, хто ў гэтым не мае патрэбы, — актывам, кіраўнікамі. Ніякія палітдні, ніякія разавыя мерапрыемствы не заменяць жывога, адкрытага, шчырага і пастаяннага дыялога з працоўнымі.

Трэба адзначыць, што сёння партыйныя арганізацыі асэнсавалі свае недахопы і паўсюдна вядуць пошук эфектыўных форм і метадаў работы. Вядома, не з аднолькавым вынікам. У кагосьці зрушэнні больш прыметныя ў адной сферы, у кагосьці — у другой. І гэта заканамерна, паколькі існуючая на тым або іншым участку сітуацыя, а яна, вядома, спецыфічная для кожнага рэгіёна, можа запатрабаваць канцэнтрацыі сіл іменна на ім.

Настойліва ўдасканальваюць стыль работы, умела ўзмацняюць уплыў на партыйныя арганізацыі, працоўныя калектывы Салігорскі і Горацкі гаркомы, Баранавіцкі, Клецкі, Партызанскі г. Мінска райкомы, іншыя партыйныя камітэты.

Нямала, аднак, і такіх камітэтаў, дзе пошук новага калі і пачаўся, то яго ледзь заўважыш.

Аналіз работы перадавых і адстаючых партыйных камітэтаў — тэрміны, вы самі разумееце, умоўныя — паказвае, што сіла і слабасць тых і іншых у адным і тым жа: у рабоце з пярвічнымі партарганізацыямі. Дапамагаць ім палепшаць работу з людзьмі, пастаянна апірацца на іх думку, прадметна вырашаць вытворчыя і сацыяльныя задачы, змагацца з бездаказнасцю, павышаць патрабавальнасць да камуністаў, да сваіх выбарных органаў — значыць дапамагаць ім на справе станавіцца палітычным ядром працоўных калектываў.

Партыйная арганізацыя Аршанскага льнокамбіната вядзе мэтанакіраваную работу па стварэнню здаровага маральна-псіхалагічнага клімату ў калектыве. Усе важнейшыя пытанні жыцця вырашаюцца саветам працоўнага калектыву. Пры гэтым добра відаць намаганні, накіраваныя на арганічнае спалучэнне інтарэсаў дзяржавы, прадпрыемства, усіх працаўнікоў. З улікам вынікаў вывучэння грамадскай думкі праходзіць абмеркаванне і вылучэнне кандыдатур на кіруючыя пасады. Рабочыя і спецыялісты камбіната пачалі больш адчуваць клопаты аб іх праз павелічэнне будаўніцтва жылля, дзіцячых дашкольных устаноў, паляпшэнне арганізацыі харчавання, бытавога, медыцынскага абслугоўвання. Усё гэта стварае ў работнікаў добры настрой, імкненне зрабіць для прадпрыемства і больш і лепш, абвастрае непрымірымасць да тых, хто парушае працоўную дысцыпліну.

Але было б памылкай не заўважаць зніжэння актыўнасці асобных партарганізацый. І павысіць іх баявітасць, умацаваць аўтарытэт, нарасціць мабілізуючы патэнцыял мы зможам толькі тады, калі кожны камуніст, на якім бы ўчастку ён ні працаваў, будзе выступаць сапраўдным байцом партыі, будзе мець дакладную ідэйную і грамадзянскую пазіцыю, адчуваць асабістую адказнасць за становішча спраў у сваім працоўным калектыве, у сваім раёне, горадзе.

Трэба напоўніць званне члена ленінскай партыі яго спрадвечным сэнсам: камуніст мае адзіную перавагу перад іншымі — першым ісці туды, дзе больш цяжка, быць узорам у працы, быце і грамадскіх справах.

Было б правільным партыйным камітэтам і арганізацыям шырэй прымяняць такія апраўдаўшыя сябе формы, як гутаркі, заслухоўванне справаздач аб удзеле камуністаў у перабудове, аб захаванні патрабаванняў Статута КПСС. Трэба вызваляцца ад тых, хто парушае нормы і прынцыпы камуністычнай маралі, кідае цень на партыю. «Партыя, — пісаў У. І. Ленін, — ёсць добраахвотны саюз, які непазбежна б распаўся, спачатку ідэйна, а потым і матэрыяльна, калі б ён не ачышчаў сябе ад членаў, якія прапаведуюць антыпартыйныя погляды» (ПЗТ, т. 12, с. 103).

Некаторыя камуністы, і нават тыя, хто займае кіруючыя пасады, не хочуць заўважаць і рэагаваць на працэсы, якія бурна развіваюцца, жывуць папрынцыпу: менш рызыкі — менш адказнасці.

Многія ведаюць, што па ініцыятыве рада творчых саюзаў і арганізацый рэспублікі вясной бягучага года была праведзена канферэнцыя, удзельнікі якой выказаліся за стварэнне новай грамадскай арганізацыі — Беларускі экалагічны саюз. Камісія ЦК КПБ і Савета Міністраў БССР па пытаннях экалогіі, азнаёміўшыся з мэтамі і задачамі, выкладзенымі ў праекце статута гэтага саюза, прыйшла да вываду, што яны ў многім супадаюць з мэтамі і задачамі Беларускага таварыства аховы прыроды. Каардынацыйнаму камітэту саюза і Рэспубліканскаму савету таварыства аховы прыроды было рэкамендавана разгледзець пытанне аб стварэнні адзінай грамадскай арганізацыі, але ўжо на новых прынцыпах, якія адлюстроўвалі б сучасныя патрабаванні да праблем экалогіі.

Аднак з-за неканструктыўнай пазіцыі старшыні таварыства аховы прыроды, намесніка старшыні Дзяржаграпрома БССР т. Каваленкі справа з мёртвага пункту так і не зрушылася. Вось прыклад таго, як можна загубіць карысную справу, калі некаторыя кіраўнікі не ў стане ўбачыць і падтрымаць ініцыятыву, накіраваць яе ў патрэбным напрамку.

Нас не можа не турбаваць той факт, што сярод часткі камуністаў праяўляюцца пасіўнасць, беспрынцыпнасць у ацэнцы ўчынкаў асобных людзей, цярпімыя адносіны да рознага роду негатыўных праяўленняў.

Нядаўна па ўсёй рэспубліцы прайшлі партыйныя сходы з адзіным парадкам дня: аб павышэнні ролі камуністаў ва ўзмацненні палітычнай работы ў працоўных калектывах. Ставілася задача: павярнуць партсходы да абмеркавання вострых палітычных пытанняў на сучасным этапе. У многіх партарганізацыях размова атрымалася адкрытай, крытычнай і прынцыповай, закранула вострыя праблемы жыцця калектываў. Цяпер рад гаркомаў, райкомаў партыі рыхтуе пленумы з такім жа парадкам дня.

На жаль, у некаторых партыйных камітэтах і арганізацыях недаацанілі важнасці і значэння сходаў, правялі іх фармальна, без глыбокага аналізу маральна-палітычнай абстаноўкі ў калектывах. На іх не атрымалі партыйнай ацэнкі камуністы, учынкі і пазіцыя якіх ідуць уразрэз з Праграмай і Статутам КПСС. На многіх сходах крытыкавалі каго хочаш, выяўлялі заганы дзе хочаш, але толькі не ў сябе, не ў сваёй рабоце.

На сходзе камуністаў Упраўлення капітальнага будаўніцтва Мінгарвыканкома горача абмяркоўвалі недахопы ў арганізацыі гарадскога гандлю, службы быту, так званыя прывілеі партыйных работнікаў. Аб месцы ж кожнага камуніста, партарганізацыі ў ліквідацыі правалаў у сваёй галіне амаль не гаварылася. З такім падыходам у ацэнцы становішча спраў на рух наперад разлічваць нельга.

І такія факты, на жаль, не адзінкавыя. Нельга не сказаць і аб тым, што на сходах не пабывалі многія работнікі апарату ЦК, камуністы-кіраўнікі міністэрстваў і ведамстваў, ды і члены Цэнтральнага Камітэта. Гэта таксама паказчык адносін да палітычнай работы.

Мы не даб'ёмся сапраўднай баяздольнасці партыйных арганізацый, калі не ўзмоцнім увагу да ўнутрыпартыйнай работы, да членства ў КПСС. Тут намеціўся рад новых, у сімтым непрывычных для нас з'яў.

У мінулым годзе кандыдатамі ў члены КПСС прынята на 5 тыс. чалавек менш, чым у папярэднім. Упершыню ў Кампартыі Беларусі — а ў яе радах звыш 700 тыс. чалавек — зменшылася колькасць камуністаў-рабочых амаль на 2 тыс. чалавек. Гэта тэндэнцыя захоўваецца і ў бягучым годзе. Узрастае колькасць выбыўшых з КПСС за няўплату членскіх узносаў і страту сувязі з партарганізацыямі. Ёсць выпадкі і добраахвотнага выхаду з яе. З тымі, хто ўступіў у КПСС з кар'ерысцкіх намераў, каму ў цяжар выкананне партыйных абавязкаў, трэба раставацца без ніякага жалю. Тут няўхільна трэба прытрымлівацца парады Леніна: «Скацерцю дарога! Такое памяншэнне членаў партыі ёсць велізарнае павелічэнне яе сілы і вагі» (ПЗТ, т. 39, с. 27).

Іншага падыходу заслугоўваюць тыя, хто матывуе свой учынак нездаволенасцю тэмпамі перабудовы, бяздзейнасцю пярвічных партыйных арганізацый, разрывам паміж словам і справай некаторых кіраўнікоў. З такімі людзьмі неабходна працаваць, весці сумленны і шчыры дыялог, аператыўна рэагаваць на справядлівыя крытычныя заўвагі і прапановы.

Як бачыце, таварышы, у пярвічных партарганізацыях накапілася нямала праблем — і застарэлых, і новых, узнікшых у сілу глыбокіх перамен, якія адбываюцца ў нашым жыцці. Вядома, у многіх недахопах вінаваты сакратары партыйных арганізацый, члены выбарных органаў. Але было б несправядлівым, калі б значную долю віны не ўзялі на сябе мы з вамі. Я маю на ўвазе і ЦК КПБ, яго аддзелы, і абкомы, гаркомы, райкомы партыі.

Распрацаваная IV пленумам ЦК КПБ праграма перабудовы работы пярвічных партарганізацый па сутнасці засталася на паперы. Адбылося гэта таму, што партыйныя камітэты з зайздроснай энергіяй навалілся на складанне ўсялякіх планаў, мерапрыемстваў, рэкамендацый па выкананню рашэнняў пленума, а да пярвічных партарганізацый так і не дайшлі. Словам, пара пайшла ў гудок.

## II.

Таварышы! У галіне кадравай работы стратэгія і тактыка нашых дзеянняў вызначана, як вядома, студзеньскім (1987 г.) Пленумам ЦК КПСС. Яго рашэнні не толькі не страцілі свайго значэння, але, наадварот, па меры паглыблення перабудовы набываюць усё большую актуальнасць.

За мінулы час удалося ўмацаваць многія ўчасткі народнай гаспадаркі і культуры здольнымі работнікамі. Немалая іх колькасць была выбрана на альтэрнатыўнай аснове.

Пераканан, што толькі праз дэмакратычную будову, гэта значыць праз дэмакратызм унутраны, групавы, грамадскі на ўсіх узроўнях, на ўсіх напрамках, мы зможам рухаць наперад справу сацыялізму. Развіццё ўнутрыпартыйнай і вытворчай дэмакратыі займае тут асаблівае месца. Чаму я ставлю побач гэтыя два працэсы? Іх сувязь не механічная, а дыялектычная, яна робіць узаемны ўплыў адзін на аднаго і ўзаемаўзбагачае адзін аднаго.

І асноўны напрамак падобнага ўзаемаўзбагачэння — работа з кадрамі. Як вядома, іх падбор і расстаноўка — прэрагатыва партыі. Некаторыя таварышы лічаць, што сёння яна абмежавана, што ў такі адказны і складаны перыяд перабудовы гэты важнейшы ленінскі прынцып кіраўніцтва аказаўся аслабленым.

Так, бываюць сітуацыі, калі пры выбарах гаспадарчых кіраўнікоў рэкамендацыі партыйных камітэтаў ігнаруюцца, калі верх бяруць не дзяржаўныя інтарэсы, а групавыя эмоцыі і амбіцыі. Ёсць і выпадкі, калі паняццем «выберам — не выберам» кадры шантажыруюцца. І як вынік — пагаршаюцца справы на вытворчасці.

Дзе ж выйсце? Вярнуцца на кругі свая, адабраць у працоўных калектываў дадзенае ім перабудовай права вызначаць, хто будзе іх кіраўніком? Або вучыцца карыстацца гэтым прынцыпам у новых умовах — умовах развіцця вытворчай дэмакратыі? Якому шляху аддаць перавагу? Спрэчкі наконт гэтага ідуць у многіх райкомах і гаркомах партыі. Зразумела, першы шлях больш просты, ён знаёмы нам, як кажуць, з дзяцінства. Але ці не з'яўляецца гэта адступленнем ад перабудовы, прымяншэннем значэння развіцця дэмакратыі наогул і вытворчай у прыватнасці?

Змаганне новага са старым адбываецца ў кожным з нас. І часам вельмі цяжка збавіцца ад сіндрому наезджанай каляіны. Вельмі не хочацца з'язджаць з яе. Але трэба, таварышы, час патрабуе. Можна без перабольшання сцвярджаць, што мы ўжо ўступілі на другі шлях. Праўда, яшчэ няцвёрда, з аглядкай, з бояззю і нават з апасеннямі наконт таго, што «усё можа разваліцца».

Каб нашы крокі на гэтым шляху сталі цвёрдымі, трэба будзе перагледзець многія падыходы да фарміравання рэзерву кадраў, а галоўнае — дабівацца становішча, калі думк партыйных камітэтаў і арганізацый будуць супадаць з думкамі працоўных калектываў.

Узнікаюць пытанні: як дабівацца? Якімі метадамі і спосабамі? З дапамогай якіх форм? У пэўнай меры размова аб гэтым ішла і вышэй. Дадам толькі наступнае. Задача партыйнага кіраўніка, няхай гэта будзе партгрупорг, сакратар пярвічнай партарганізацыі альбо першы сакратар абкома партыі,— адраджэнне бальшавіцкай традыцыі жывых сувязей з людзьмі.

Сітуацыя патрабуе ад партыйнага кіраўніка любога ўзроўню і рангу ісці да людзей на заводы і фермы, у канструктарскія бюро і інстытуты, у бальніцы і паліклінікі, на плошчы і вуліцы, ісці туды, дзе яны працуюць, жывуць, адпачываюць. Толькі так можна дасканала вывучыць грамадскую думку, праблемы, якія хвалююць чалавека, клопаты, якімі ён жыве, сімпатыі і антыпатыі розных груп, фарміраванняў, арганізацый, пункты збліжэння або, наадварот, разыходжання поглядаў, ацэнак, павярхоўныя і глыбінныя прычыны тых альбо іншых схільнасцей.

Гэта і самы правільны шлях павышэння аўтарытэту партыі.

Многім работа па-новаму даецца з цяжкасцю. Вызваліцца ад прывычак, якія ўкараняліся гадамі, няпроста. У сувязі з гэтым хацеў бы спыніцца на пытанні, якое мы пастаянна закраналі і ў папярэднія гады, але з іншага пункту гледжання. Пытанне гэта, калі разглядаць яго

вузка, — пытанне партыйнага лідэра, а калі шырэй — палітычнае, культурнае, маральнае аблічча партыйнага кіраўніка, партыйнага работніка.

У некаторых склаўся стэрэатып: партыйны кіраўнік — чалавек, зашпілены, як кажуць, на ўсе гузікі. Калі прыехаў у калектыў, то ў суправаджэнні. Калі гаворыць, то прапіснымі ісцінамі. Калі пярэчыць, то ў загаднай форме. І гэтак далей. Стэрэатып крыўдны і ў многім несправядлівы, але ж з нічога ён не ўзнік бы.

Палітычная дзейнасць ва ўмовах дэмакратыі і публічнасці патрабуе ад палітычнага работніка якасцей, якія дазваляюць: праводзіць лінію партыі не толькі з трыбуны, не з дапамогай адміністрацыйна-камандных метадаў, а ў гушчыні людзей; фарміраваць ідэалогію, сацыялістычную свядомасць працоўных не па справаздачах аб мерапрыемствах, а ў адкрытай дыскусіі, на аснове рэалій жыцця; напаўняць новымі з'явамі разнастайную духоўна-маральную тканку грамадства не метадамі кантролю, а жывым, непасрэдным удзелам у творчых пошуках народа, у спрэчках, сутыкненнях поглядаў, вызначэнні пазіцый.

Калі партыя, якая выражае інтарэсы народа, павінна быць сёння і аб'ядноўваючай, і прынцыповай, і гібкай, і цярпімай, то і яе палітычным байцам трэба ўмець дзейнічаць з улікам іменна гэтых бакоў. Інакш кажучы, новыя ўмовы ажыццяўлення палітычнага лідэрства адводзяць нас да неабходнасці у многім перагледзець існуючую практыку фарміравання партыйных кадраў.

Доўгі час у камплектаванні гэтага корпуса пераважаў падыход, у адпаведнасці з якім на прафесіянальную партыйную работу вылучаліся пераважна асобы, якія маюць інжынерна-тэхнічную або сельскагаспадарчую адукацыю. Цяпер больш дзвюх трацей сакратароў гарадскіх і раённых камітэтаў, у тым ліку 95,6 працэнта першых сакратароў, з'яўляюцца спецыялістамі сфер матэрыяльнай вытворчасці.

Размова, вядома, не аб тым, каб пачаць масавае вылучэнне на партыйную работу сацыёлагаў, гісторыкаў, юрыстаў і г. д. Павінен на справе перамагчы прынцып, у адпаведнасці з якім на партыйную работу ішлі б тыя, хто па сваіх палітычных, маральных і дзелавых якасцях можа сапраўды забяспечыць ролю лідэра або аднаго з лідэраў у кіраўніцтве партарганізацыяй. Без гэтага немагчыма разлічваць на поспех і на глыбокае абнаўленне партыйнай работы.

Тут прысутнічаюць кіраўнікі амаль усіх гаркомаў і райкомаў. Пытанне да вас, таварышы: у якіх гарадскіх і раённых камітэтах праводзіліся ў гэтым годзе сходы з такімі парадкамі дня, як, скажам, «Твой інтэлектуальны патэнцыял: . як лепш паставіць яго на службу перабудовы?», «Твая палітычная культура», «Твой удзел у развіцці палітычнага працэсу», «Што азначае сёння ленінскае патрабаванне «быць у гушчыні мас»? Так, не прывыклі мы да такіх парадкаў дня. Адбіваюцца і традыцыі мінулых гадоў, і адставанне асобных партыйных камітэтаў ад працэсаў, якія адбываюцца ў грамадстве, асабліва ў палітычнай, духоўнай сферах.

Сказанае справядліва і ў адносінах да Бюро ЦК КПБ, у прыватнасці да зацвярджэння на яго пасяджэннях характарыстык кіруючых работнікаў. Размова больш ідзе аб працэнтах, планах, тэхпрагрэсе. На высвятленне ж таго, як чалавек працуе над расшырэннем свайго кругагляду, якія яго адносіны да нашумелай публікацыі, як ён павышае палітычную культуру, ды і не толькі палітычную, часу не хапае.

Усе вы добра разумееце, што справа не толькі ў сходах, зацвярджэнні характарыстык, а ў тым, што павышэнне свайго агульнаадукацыйнага і культурнага ўзроўню, уменне весці канструктыўны дыялог у любой аўдыторыі ставяцца разам з кампетэнтнасцю, дзелавітасцю, чуласцю да людзей на першы план прафесіянальнай дзейнасці партыйнага лідэра любога рангу. Ды і не толькі партыйнага, але і савецкага, прафсаюзнага, камсамольскага, гаспадарчага.

І не трэба спасылацца на недахват часу, на «падкопы» павodзінскага стэрэатыпа, які складваўся ў ранейшыя гады, — звышасцярожнасць, боязь сказаць штосьці непатрэбнае, пастаяннае чаканне ўказанняў зверху. Ды і на тое, што сацыяльная абароненасць кіруючага работніка пакідае жадаць лепшага, таксама не варта спасылацца.

Усё гэта, як кажуць, прысутнічае. Але ж зусім відавочна і тое, што мы часам не ідзём у тыя або іншыя аўдыторыі, да тых або іншых груп насельніцтва і таму, што адчуваем сваю лішнюю няўпэўненасць, якая часам выклікаецца недастатковай падрыхтаванасцю.

У мінулыя гады, у атмасферы падпарадкавання камандзе, гэта значыць фактычна ў абстаноўцы палітычнай абломаўшчыны, наша інтэлектуальная палітычная мускулатура яўна аслабла. Каб авалодаць інтэлектуальнай ініцыятывай, трэба перш за ўсё збавіцца ад распаўсюджанай недаацэнкі тэарэтычнай падрыхтоўкі кадраў. Бяруся сцвярджаць, што да гэтага часу шырока бытуючае «няма чаго тэорыю разводзіць» было і застаецца адной з асноўных прычын многіх недахопаў у рабоце партыйных камітэтаў і арганізацый. Іменна тут корань непадрыхтаванасці некаторых кадраў да аналізу працэсаў, якія адбываюцца ў грамадстве, а значыць, і няўмеласці ў штодзённых практычных дзеяннях.

Нядаўні разгляд у Бюро ЦК КПБ справаздачы парткома і рэктарата Мінскай вышэйшай партыйнай школы паказаў, што майстэрству палітычнай работы слаба вучаць і там. Апытанні выпускнікоў выявілі, што, ідучы ў школу, адчувалі патрэбнасць у веданні псіхалогіі і педагогікі 88 працэнтаў слухачоў, асноў навуковага кіравання сацыяльнымі працэсамі — 70, тэорыі і практыкі выхавання — 64, літаратуры і мастацтва — 65, культуры кантактаў — 82, майстэрства публічнага выступлення — 90 працэнтаў. На жаль, у большасці выпадкаў гэтыя патрэбнасці не рэалізаваны.

Час слухачоў у асноўным ідзе на канспектаванне і завучванне даўно вядомых ісцін. Рэктарат і партком некрытычна ацэньваюць сваю дзейнасць, праяўляюць маруднасць у абнаўленні зместу і форм навучальнага працэсу.

Паўстае двухадзіная задача — карэнным чынам палепшыць навучанне партыйных работнікаў і значна расшырыць кантынгент слухачоў. Зразумела, гэта задача не адной школы, а ўсёй Кампартыі Беларусі, усіх яе камітэтаў і арганізацый.

Трэба выкараніць фармалізм і сум з апаратнай вучобы, смялей уносіць у яе навізну, дыскусіі, мадэліраванне і разбор розных сітуацый.

Словам, таварышы, я падводжу вас да думкі аб тым, што праблема партыйнага лідэра — гэта праблема перш за ўсё асобы. Ход перабудовы цвёрда пераконвае ў тым, што аўтарытэт пасады без шырокай эрудыцыі і глыбокага ведання справы цяпер не дзейнічае. Жыццё настойліва патрабуе лідэраў новай фармацыі, з унутранай патрэбнасцю адстойваць ідэі марксізму - ленінізму, здольных даць адпор дэмагогу і крыкуну, пераканаць таго, хто сумняваецца, падтрымаць шукаючага.

Вялікая роля ў пошуку, адборы і выхаванні такіх лідэраў першых сакратароў абкомаў, гаркомаў і райкомаў партыі. Іменна яны абавязаны задаваць тон у рабоце, праяўляючы глыбіню ідэйна-тэарэтычнай падрыхтоўкі і грунтоўнасць практычнай вывучкі, высокую адказнасць, самакрытычнасць.

Надзейна і з перспектывай, без шуму і мітусні вядуць справу першыя сакратары гаркомаў партыі: Бабруйскага — Т. Алімбочкаў, Ваўкавыскага — Т. Жэбрак, Дзяржынскага — Т. Гаркун, Кобрынскага — Т. Крывецкі, Мазырскага — Т. Сяліцкі; першыя сакратары райкомаў: Докшыцкага — Т. Усцін, Кастрычніцкага г. Мінска — Т. Яськоў. Яны глыбока ўнікаюць у сутнасць праблем, якія хвалююць людзей, уважліва прыслухоўваюцца да іх думкі, пастаянна клапоцяцца, каб кожны работнік дзейнічаў прафесіянальна, энергічна.

Аднак не ўсім першым сакратарам удалося ачысціцца ад іржы ўстарэлых схем. Некаторыя звыкліся з існуючым становішчам спраў, не могуць пераадолець закасцянелую ўпэўненасць у бязгрэшнасці некалі ўзнікшых форм і метадаў. Ім не хапае ўмення спалучаць бягучую работу з прагназіраваннем развіцця розных тэндэнцый у грамадскім жыцці, улоўліваць асноўныя настроі ў грамадскай свядомасці.

Пакуль што мы больш рэагуем на тыя або іншыя працэсы, чым робім апераджальны ўплыў на іх фарміраванне.

А вось яшчэ адзін бок гэтай праблемы — залішняя скаванасць партыйных кіраўнікоў, партыйных работнікаў. Старажытныя людзі правільна падмецілі: недахопы — прадаўжэнне добрых якасцей. У некаторых гэта скаванасць ідзе ад такой уласцівай многім выдатнай рысы, як сціпласць.

Працоўныя хочуць бачыць партыйных лідэраў больш разняволенымі, свабоднымі ў кантактах з людзьмі. І гэта зразумела. Нават ва ўмовах, калі партыйных кіраўнікоў сёй-той абвінавачвае ледзь ці не ва ўсіх бедах нашага грамадства, аб'яўляючы іх тормазам перабудовы, працоўныя чакаюць іх слова, ідуць да іх за дапамогай і парадай. Ідуць таму, што ведаюць: усе яны, за рэдкім выключэннем, — камуністы прынцыповыя, сумленныя, душой перажываюць за справу. Ведаюць і тое, што тыя, хто распаўсюджвае інсінуацыі пра нас, узмацняе атаку на партапарат, на самай справе маюць на ўвазе зусім іншае, а іменна: партыю і сацыялізм.

Усё больш відавочнай становіцца канчатковая мэта гэтай атакі — унесці замяшанне ў розумы, дыскрэдытаваць лінію партыі, сарваць карэннае абнаўленне грамадства на сацыялістычных каштоўнасцях. Не рэагаваць на гэта нельга. Справядлівасць і інтарэсы партыі, усяго грамадства патрабуюць даць адпор такім настроям і дзеянням.

## III.

Таварышы! Бясспрэчнымі з'яўляюцца заваёвы сацыялізму ў рэалізацыі нацыянальнага пытання. Аднак перабудова выкрыла тут многае з таго, што да пары да часу ляжала пад спудам, стрымлівалася нежаданнем глядзець праўдзе ў вочы.

У нашай рэспубліцы жывуць прадстаўнікі звыш 100 нацыянальнасцей. Самае важнае цяпер — павышэнне адказнасці кожнага народа, кожнай народнасці за лёс перабудовы. Мы перакананы, што шлях да сапраўднага інтэрнацыяналізму, да поспеху рэвалюцыйных пераўтварэнняў магчымы толькі на аснове глыбокай павагі нацыянальнага і прынцыповага непрымання нацыяналістычнага.

У вырашэнні гэтай важнейшай праблемы хацеў бы выдзеліць чатыры аспекты.

Першы. XIX партканферэнцыя ў якасці арыенціраў для гарманічных міжнацыянальных адносін у сферы эканомікі выказалася за прынцыпы справядлівасці і брацкай інтэрнацыянальнай дапамогі адзін аднаму, за ўзаемадзеянне, якое забяспечвае і агульны ўздым, і паляпшэнне эканамічных і сацыяльных умоў жыцця ўсіх нацый і народнасцей краіны.

На развіццё эканамічнай узаемаадказнасці і арыентуе нас праект агульных прынцыпаў. Відавочная яго найцяснейшая сувязь з палітычнай рэформай. Поўнаўладдзе Саветаў — ад сельскіх да рэспубліканскіх — немагчыма без расшырэння і матэрыяльнага забеспячэння іх правоў.

У той жа час намячаемая рэарганізацыя — лагічны працяг лініі на эканамічныя метады кіравання. Развіваючы і паглыбляючы гаспадарчаразліковыя адносіны ў асноўным звяне грамадскай вытворчасці, трэба зрабіць наступны крок у замацаванні гэтых прынцыпаў — пашырыць іх на сферу тэрытарыяльнага гаспадарання: рэспубліку, вобласць, горад, раён. Неабходныя эканамічныя, фінансавыя, кадравыя прадпасылкі для рэгіянальнага самафінансавання і самакіравання ў нас ёсць. Яны падрабязна аналізаваліся на пленуме ЦК Кампартыі Беларусі.

Трэба будзе на ўсіх узроўнях кіраўніцтва стварыць новыя рычагі, новую структуру кіравання, якія дазвалялі б найлепшым чынам выкарыстоўваць створаны ў нас вытворча - эканамічны патэнцыял і тым самым умацоўваць матэрыяльную базу для павышэння ўзроўню жыцця людзей.

Цяпер вызначаюцца сферы гаспадарання ўсіх узроўняў кіраўніцтва, размяжоўваюцца функцыі і аб'екты кіравання паміж цэнтрам і рэспублікай, рэспублікай і вобласцю, вобласцю і раёнам або горадам. Пры ўдзеле саюзных органаў вядзецца іншая падрыхтоўчая работа з улікам ідэй, выказаных на З'ездзе народных дэпутатаў СССР.

Варта сёння напомніць Савету Міністраў і Дзяржплану рэспублікі, што трэба паскорыць распрацоўку адпаведных дакументаў з тым, каб у бліжэйшыя месяцы апублікаваць іх для шырокага абмеркавання.

Другі аспект ахоплівае разлічаную на працяглую перспектыву работу, якая істотна палепшыць узаемасувязі прадстаўнікоў усіх пражываючых у рэспубліцы нацый і народнасцей, забяспечыць ім умовы для задавальнення культурных інтарэсаў і патрэбнасцей, развіцця традыцый і звычаяў, ліквідуе ўзнікшыя тут перакосы і дэфармацыі.

Удзельнікам пленума вядомы тыя меры, якія рэалізуюцца па гарманічнаму развіццю беларуска-рускай двухмоўнасці, расшырэнню сферы прымянення беларускай мовы, захаванню помнікаў гісторыі і культуры, ліквідацыі «белых плям» нашага мінулага.

У адпаведнасці з рашэннямі X пленума ЦК КПБ распрацоўваюцца доўгатэрміновыя комплексныя рэспубліканскія праграмы «Родная мова» і «Спадчына».

Прымаемыя меры ажыццяўляюцца без прымусу, без шкоды для людзей іншых нацыянальнасцей, якія жывуць на тэрыторыі рэспублікі. Нікому ні пад якім выглядам нельга дазволіць пасеяць пачуццё недавер'я ў нашай мнoганацыянальнай сям'і. Дружба народаў — неацэнны скарб нашай Айчыны, які мы і ў далейшым павінны захоўваць як зрэнку вока. Народы Савецкай Беларусі добра ведаюць ёй цану і ў суровыя гады Вялікай Айчыннай вайны, і ў перыяд аднаўлення народнай гаспадаркі. Ды і ў сённяшнія дні.

Многа цяпер дыскусій аб дзяржаўным статусе нацыянальных моў. Вядуцца яны і ў нашай рэспубліцы. Паспешнасць, як і марудлівасць, у гэтай важнай і тонкай справе недапушчальныя. Тут мы будзем у поўнай меры ўлічваць і існуючую практыку міжнацыянальных і эканамічных адносін, і ўрокі палітыкі беларусізацыі 20—30-х гадоў, і некаторыя сучасныя ўрокі. На нашу думку, узняць прэстыжнасць роднай мовы і культуры дырэктыўным, валявым умяшаннем у гэту сферу немагчыма.

Трэці аспект. Ідэалагічную работу трэба будзе перабудаваць такім чынам, каб ужо сам працэс выхавання ў працоўных патрыятызму і інтэрнацыяналізму выключаў як нацыянальны нігілізм, так і нацыянальную адасобленасць, вучыў людзей адрозніваць нацыянальныя інтарэсы і іх нацыяналістычныя скрыўленні.

Неабходна ўзмацніць барацьбу з усім, што раз'ядноўвае нацыі і народнасці, са спробамі ўшчамлення правоў грамадзян любой нацыянальнасці. У працоўных калектывах і па месцы пражывання трэба стварыць такую грамадскую атмасферу, у якой чалавек любой нацыянальнасці, што пражывае і працуе ў рэспубліцы, адчуваў бы сябе роўным сярод роўных, адчуваў сябе як дома.

І нарэшце, чацвёрты аспект. Новыя адносіны дружбы, супрацоўніцтва паміж народамі і нацыямі СССР выкуюцца толькі ў ходзе сумесных пераўтварэнняў. Але, каб пераўтварэнні ажыццяўляліся і хутчэй, і з больш высокім вынікам, гэтым адносінам патрэбна заканадаўчае афармленне. Размова ідзе аб прававым замацаванні прынцыпаў федэрацыі, статусу нацыянальных утварэнняў, гарантый рэспублік у рэалізацыі нацыянальна-культурных запатрабаванняў грамадзян, аб узмацненні адказнасці за распальванне нацыянальнай варожасці, аб многіх іншых праблемах, якія, як вы памятаеце, актыўна абмяркоўваліся на З'ездзе народных дэпутатаў СССР.

З мэтай удасканалення кіравання працэсамі ў міжнацыянальных адносінах Вярхоўны Савет БССР утварыў пастаянную камісію. Аналагічныя камісіі будуць дзейнічаць, дзе гэта неабходна, у мясцовых Саветах.

## IV.

Асаблівую ўвагу трэба ўдзяліць моладзі. Мы павінны на справе праявіць да яе поўнае палітычнае давер'е, будаваць адносіны на прынцыпах таварыскасці, паважлівасці, патрабавальнасці і ўзаемадзеяння ў мнагаграннай рабоце па абнаўленню грамадства.

Задача партыйных камітэтаў — дапамагчы камуністам, якія працуюць у камсамоле, ператварыць саюз у сапраўдную школу камуністычнага выхавання, школу дэмакратыі, у наватарскую арганізацыю, дзе атрымалі б падтрымку творчасць і ініцыятыва, дзе адкрытасць у выказванні сваіх пазіцый, дыскусійнасць спалучалася б з практычнай рэалізацыяй інтарэсаў моладзі, яе актыўным уключэннем у сацыяльныя і эканамічныя пераўтварэнні.

Разам з прапановамі аб кансалідацыі здаровых сіл у камсамоле прапануюцца ідэі, накіраваныя на яго раскол, на стварэнне нейкіх альтэрнатыўных арганізацый, розных «суполак». Інакш кажучы, робяцца спробы звесці барацьбу з недахопамі ў рабоце камсамола да барацьбы супраць яго самога. За ўсім гэтым тоіцца жаданне адарваць моладзь ад камсамола.

Сёй-той па-кашчунску дагаварыўся да таго, што і камсамол, маўляў, у нас зусім не ленінскі, а сталінскі, а значыць, і ў назве маладзёжнага саюза імя правадыра прысутнічаць не павінна.

Кожная партарганізацыя павінна дапамагаць моладзі свайго калектыву разбірацца, дзе сапраўды рэвалюцыйная палітыка, а дзе крыклівая, адарваная ад рэальнасці пародыя на яе, дзе спекуляцыя на цяжкасцях перабудовы, імкненне павесці за сабой юнакоў і дзяўчат, а затым ашукаць і падштурхнуць іх на проціпраўныя дзеянні.

(Працяг на стар. 4—5.).

(Пачатак на стар. 1—3).

Сёння кожны, хто звяртаецца да моладзі, — няхай гэта будзе настаўнік школы або выкладчык ВНУ, партыйны работнік або гаспадарчы кіраўнік, — павінен адчуваць найвышэйшую адказнасць за свае слова, за тое, які водгук яно знойдзе сярод юнакоў і дзяўчат. Наш партыйны, бацькоўскі і мацярынскі абавязак — дапамагчы маладому у складанай абстаноўцы нашага часу засцерагчыся ад памылак, няправільных крокаў.

Трагічныя падзеі ў Грузіі, Азербайджане і Арменіі, а затым ва Узбекістане сведчаць, што многія палітыканы хацелі б бачыць у нашых дзецях і ўнуках толькі гаручы матэрыял, які, не задумваючыся, можна было б кінуць у кастры грамадскіх канфліктаў. Асляпленыя шалёным імкненнем да ўлады, яны дзеля задавальнення сваіх амбіцыйных намераў гатовы загубіць жыцці маладых людзей. Уласныя ж галовы пад удар не падстаўляюць.

ЦК Кампартыі Беларусі верыць у грамадзянскую сталасць маладых рабочых і калгаснікаў, вучоных і інжынераў, аграномаў і ўрачоў, настаўнікаў, студэнтаў і навучэнцаў, у тое, што моладзь рэспублікі не дазволіць спакусіць сябе фальшывымі лозунгамі і заклікамі.

У пачатку года ў Цэнтральным Камітэце Кампартыі Беларусі адбылася сустрэча кіраўніцтва рэспублікі з воінамі запасу, якія выконвалі інтэрнацыянальны абавязак у Афганістане. Па выніках сустрэчы прыняты пастановы Бюро ЦК, а таксама Прэзідыума Вярхоўнага Савета і Саўміна БССР, у якіх вызначаны меры па аказанню дапамогі былым воінам-інтэрнацыяналістам і сем'ям загінуўшых. Наша моладзь сумленна выканала свой абавязак, у экстрэмальных сітуацыях даказала, што дастойная славы бацькоў. І такой моладдзю мы ганарымся.

Трэба ўсяляк падтрымліваць ініцыятывы камітэтаў камсамола, накіраваныя на сацыяльную адаптацыю воінаў-інтэрнацыяналістаў, іх прыцягненне да выхавання падрастаючага пакалення.

Нямала трывожных з'яў паявілася ў асяроддзі студэнцтва і навучэнцаў. У студэнцкіх аўдыторыях і інтэрнатах распаўсюджваюцца сумніцельнага роду самвыдавецкія матэрыялы, частка юнакоў і дзяўчат стала наведвальнікамі бясплённых мітынгаў пад нацыяналістычнымі і экстрэмісцкімі лозунгамі.

Нельга не бачыць, што крытычная настроенасць, пэўны нігілізм часткі студэнцкай аўдыторыі выклікаюцца недахопамі ў рабоце рэктаратаў, партыйных, камсамольскіх і прафсаюзных арганізацый навучальных устаноў. Асабліва неспрыяльнае становішча ў Беларускім тэатральна-мастацкім інстытуце. Тут фактычна пусцілі на самацёк выхаваўчую работу сярод студэнтаў, перабудову навучальнага працэсу. А гэта прывяло да развалу справы, рада эксцэсаў экстрымісцкага характару. Выклікае жаль, што партыйная і камсамольская арганізацыі інстытута не далі належнай ацэнкі гэтаму. Запатрабавалася ўмяшанне Мінскага гаркома партыі.

Сур'ёзныя праблемы і ў сістэме прафтэхадукацыі. Паранейшаму нізкім застаецца сярод навучэнцаў аўтарытэт вучэбнай працы і ведаў, дысцыпліны. У мінулым годзе па розных прычынах адлічана больш як 10 тысяч навучэнцаў.

Факты трывожныя. Выходзіць, не да ўсіх партыйных арганізацый і камітэтаў дайшоў галоўны палітычны сэнс патрабаванняў лютаўскага (1988 г.) Пленума ЦК КПСС аб прыярытэтным развіцці адукацыі моладзі, аб узмацненні партыйнага ўплыву на справы школы.

Абавязак кожнага камуніста, кожнага камсамольца, абавязак бацькоў — сканцэнтраваць увагу на фарміраванні ў юнакоў і дзяўчат цвёрдых светапоглядных пазіцый, на падрыхтоўцы іх да таго, каб яны ў будучым змаглі ўзяць на свае плечы груз адказнасці за наша грамадства.

Што неабходна зрабіць для гэтага?

Па-першае, райкомам, гаркомам і абкомам партыі, партыйным камітэтам і бюро навучальных устаноў трэба старанна прааналізаваць і выверыць арсенал форм і метадаў ідэйна-выхаваўчай работы са студэнтамі і навучэнцамі, прывесці яго ў адпаведнасць з новымі патрабаваннямі дня.

Па-другое, Міністэрству народнай адукацыі, ідэалагічнаму аддзелу ЦК, абкомам, гаркомам і райкомам партыі, ЦК ЛКСМБ важна стварыць сістэму работы з грамадазнаўчымі кадрамі, узмацніць увагу да палітычнага інфармавання і грамадзянскага станаўлення студэнцкай, навучэнскай і навуковай моладзі.

І па-трэцяе, камуністам, якія працуюць у камсамоле, ЦК ЛКСМБ, неабходна авалодаць ідэалагічнай ініцыятывай у маладзёжным асяроддзі, кампетэнтна весці работу па патрыятычнаму і інтэрнацыянальнаму выхаванню юнакоў і дзяўчат рэспублікі, больш настойліва і канкрэтна адстойваць сацыяльна значымыя інтарэсы моладзі.

Аслабла ў апошні час ваенна-патрыятычнае выхаванне. Цэлы рад недастаткова ўзважаных публікацый і тэлеперадач, безадказныя выступленні некаторых асоб на мітынгах яўна накіраваны на тое, каб выклікаць у душах маладых людзей і савецкіх воінаў сумненні ў каштоўнасцях сацыялізму, убіць клін паміж народам і арміяй. Робяцца спробы сфарміраваць у грамадскай свядомасці негатыўныя адносіны да арміі, і ў прыватнасці да афіцэрскай прафесіі. У асобных публікацыях размываюцца ленінскія палажэнні аб ролі Узброеных Сіл у абароне Сацыялістычнай Айчыны. У той жа час абыходзіцца маўчаннем праблема неабходнасці павышэння баявой гатоўнасці Узброеных Сіл, уважлівых адносін да лёсу ваеннаслужачых, якія звальняюцца ў запас, і іх сем'яў, асабліва ў сувязі са скарачэннем колькасці арміі і флоту.

Ва ўзмацненні абаронна-масавай работы сярод насельніцтва, умацаванні адзінства арміі і народа, выхаванні ў моладзі патрыятызму і інтэрнацыяналізму важна паўней выкарыстоўваць багаты вопыт, аддавасць справе Кастрычніка, ідэйную стойкасць, жыццёвую мудрасць слаўных ветэранаў партыі, вайны і працы.

Разам з тым нашымі штодзённымі клопатамі павінна стаць стварэнне для іх спрыяльных жыццёвых умоў. У адносінах да ветэранаў асабліва нецярпімыя раўнадушнасць і фармальна-бюракратычны падыход, чэрствасць і няўважлівасць. Трэба, каб кожны такі факт атрымліваў строгую партыйную ацэнку, грамадскае асуджэнне.

На нашу думку, рознабаковую і плённую работу вядзе Рэспубліканскі савет ветэранаў вайны і працы. Ён з'явіўся ініцыятарам рада каштоўных пачынанняў, накіраваных на паляпшэнне жыццёвага ўладкавання людзей старэйшага пакалення. Важна, каб гэтыя пачынанні набывалі падтрымку ўсёй нашай грамадскасці.

## V.

Таварышы! Палітычная сітуацыя ў рэспубліцы будзе ў многім вызначацца тым, наколькі хутка і рэальна ідэалагічная работа стане агульнапартыйным клопатам.

Зразумела, асаблівая роля належыць тут творчай, навукова-педагагічнай, інжынерна-тэхнічнай інтэлігенцыі. Партыя заўсёды бачыла ў ёй надзейнага памочніка, высока цэніць яе працу, яе імкненне справай падтрымаць перабудову, узбагаціць духоўнае жыццё народа.

У апошні час узрасла ўвага партыйных камітэтаў да творчых саюзаў. Сталі правілам сустрэчы з імі членаў Бюро ЦК і абкомаў партыі. Расшыраецца практыка індывідуальных гутарак. Вядзецца канкрэтны, таварыскі дыялог, абмяркоўваюцца і падтрымліваюцца канструктыўныя прапановы. У тым, што пачаліся зрухі ў развіцці нацыянальнай мовы і культуры, музейнай справы, увекавечанні імён выдатных гістарычных дзеячаў, заслуга ў першую чаргу лепшых прадстаўнікоў творчай інтэлігенцыі рэспублікі. Дэмакратызм, цярпімасць да іншай думкі, давер'е да людзей, кампетэнтнасць, добразычлівасць, заахвочванне ініцыятывы і наватарства, падтрымка талентаў — усё гэта сёння не проста нашы добрыя пажаданні, а зыходныя прынцыпы партыйнай работы з інтэлігенцыяй.

Разглядаючы дзейнасць партыйных арганізацый творчых саюзаў, устаноў культуры і мастацтва з гэтых пазіцый, павінен адзначыць, што іх роля ў кансалідацыі творчых работнікаў, у выхаванні ў іх адказнасці перад народам пакуль яшчэ нязначная.

У чым прычына? Напэўна, у тым, што рад партыйных арганізацый не вызначыў галоўныя напрамкі работы, па-ранейшаму займаецца шматлікімі гаспадарчымі, арганізацыйнымі і іншымі праблемамі, упускаючы філасофскія, палітычныя, маральныя арыенціры і крытэрыі ў пазіцыі таго або іншага мастака.

Нас не можа не трывожыць маральна-палітычная абстаноўка ў некаторых творчых саюзах. Нельга прайсці міма дэмагагічных заклікаў, якія часта яшчэ чуваць, наўмыснага скажэння фактаў і падзей, бестактоўнасці і суб'ектывізму, міма ў большай ступені эмацыянальных, чым аргументаваных і ўзважаных меркаванняў.

Крызісная сітуацыя склалася ў Саюзе кінематаграфістаў БССР. Добрыя намеры вывесці беларускі кінематограф на новыя гарызонты не ўвасабляюцца ў канкрэтныя справы. І перш за ўсё таму, што верх часцей за ўсё бяруць не прынцыповыя, а групавыя, асабістыя амбіцыі. Гэта пацвердзіў і прайшоўшы нядаўна нечарговы з'езд кінематаграфістаў. З-за перавагі на ім групавых прадузятасцей, спроб звесці асабістыя рахункі ён не мог прыняць канструктыўных рашэнняў. Між тым становішча ў беларускім кіно нездавальняючае. Адсутнічае прадуманая канцэпцыя развіцця нацыянальнага кінематографа. Перабудова кінатворчасці ідзе марудна, хваравіта.

А ці мэтазгодна фарсіраваць рост радоў творчых саюзаў так, як гэта робіць Саюз мастакоў БССР? Толькі з чэрвеня мінулага года ён прыняў у свае рады 184 чалавекі. Партыйная ж арганізацыя саюза сваёй пазіцыі не вызначыла. Яна маўчыць. А чаму, узнікае пытанне? Мы, вядома, супраць штучнага стрымлівання гэтага працэсу. Але крытэрый прыёму павінен быць адзін — здольнасць, таленавітасць, індывідуальны падыход.

Абкомам, гаркомам і райкомам партыі трэба больш прадметна займацца партарганізацыямі творчых саюзаў і ўстаноў мастацтваў, аказваць ім канкрэтную дапамогу ў арганізацыйна-масавай і выхаваўчай рабоце. Важна забяспечыць падтрымку тым, хто выступае за прыярытэт справы, за яе інтарэсы, за высокую творчую аддачу. Рэальная перабудова ў творчых саюзах і ўстановах мастацтва вымяраецца не колькасцю пасяджэнняў і мітынгаў, не мноствам рэзалюцый і маніфестаў, а канкрэтнымі таленавітымі творамі.

Растуць патрабаванні і да навуковай інтэлігенцыі. У ліку прыярытэтных напрамкаў развіцця навукі — паскарэнне навукова-тэхнічнага прагрэсу, асноўныя навукаёмістыя галіны— вылічальная тэхніка і інфарматыка, машынабудаванне, аграпрамысловы комплекс. Мэтазгодна, каб камісіі ЦК КПБ разгледзелі ход выканання распрацаваных наконт гэтага комплексных рэспубліканскіх праграм.

У апошні час мы ўсё часцей гаворым аб ролі грамадскіх навук. І гэта не даніна модзе, а патрэбнасць, выкліканая самім часам, духам перабудовы, вострай неабходнасцю глыбока і грунтоўна асэнсоўваць яе вынікі і перспектывы. Пакуль што многія грамадазнаўцы набіваюць руку на крытыцы мінулага, абыходзяць маўчаннем сённяшняе і нясмела заглядаюць у будучыню. А іменна такіх распрацовак і не хапае. Сярод грамадазнаўцаў пакуль што больш кабінетных работнікаў і вельмі мала тых, хто свае ідэі, канцэпцыі, погляды адстойвае публічна, у дыскусіях. На рэальную аснову пара перавесці вывучэнне грамадскай думкі, завяршыць станаўленне Рэспубліканскага цэнтра сацыялагічных даследаванняў.

Есць неабходнасць і ў праграме гістарычных даследаванняў. Гэта задача Інстытута гісторыі АН БССР, Інстытута гісторыі партыі пры ЦК КПБ, вузаўскіх кафедраў гісторыі. Неабходна пакончыць з кан'юнктуршчынай і міфалагізацыяй, з абязлічваннем гістарычнага працэсу, ігнараваннем гістарычнага вопыту.

Зыходзячы з рэальна ўзрослых патрабаванняў да ролі грамадскіх навук, патрэбна адмовіцца ад погляду на іх, як на навукі, што развіваюцца па астаткаваму прынцыпу. Узмацненне іх прагнастычных магчымасцей немагчыма без сучаснага тэхнічнага і кадравага забеспячэння. Нельга прызнаць нармальным той факт, што ўсе інстытуты АН БССР адносяцца да першай катэгорыі, акрамя грамадазнаўчых.

Незваротнасць ідэй перабудовы ў многім вызначаецца тым, наколькі надзейна мы зможам абараніць правы і свабоды чалавека, забяспечыць няўхільнае выкананне ўсімі арганізацыямі, службовымі асобамі і грамадзянамі патрабаванняў закона.

Бюро ЦК КПБ, Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР і ўрад рэспублікі ажыццявілі рад мер, накіраваных на ўмацаванне сацыялістычнай законнасці, ахову правоў грамадзян, узмацненне барацьбы са злачыннасцю, п'янствам, іншымі негатыўнымі з'явамі. У святле ўстановак XIX партканферэнцыі пераглядаецца рэспубліканскае заканадаўства, рыхтуюцца змяненні Канстытуцыі БССР, праекты законаў аб выбарах у Вярхоўны Савет рэспублікі, мясцовыя Саветы народных дэпутатаў. Удасканальваецца прававая прапаганда. Паўсюдна праведзены раённыя, гарадскія і абласныя канферэнцыі «Перабудова, яе прававое забеспячэнне».

Павысіўся ўплыў партыйных арганізацый на падбор і выхаванне кадраў праваахоўных органаў.

Тым не менш парушэнні законнасці ва ўсіх сферах эканамічнага і сацыяльнага жыцця ліквідуюцца марудна. Тут непачаты край работы для органаў пракуратуры, роля якіх павінна быць значна вышэйшай, а пракурорскі нагляд — больш эфектыўным і строгім.

На першы план ставяцца праблемы прававой абароненасці асобы. Чалавека трэба ахоўваць як ад грабежнікаў і хуліганаў, хабарнікаў і зладзеяў, так і ад самавольства, злоўжывання ўладай любой службовай асобы.

Сёння ж узровень абароны працоўных і жыллёвых правоў грамадзян пакідае жадаць лепшага. Кожны трэці пасля звароту ў суд наконт незаконнага звальнення аднаўляецца на рабоце. Задавальняецца 75 працэнтаў іскаў грамадзян па жыллёвых пытаннях. Гэта вынік адсутнасці неабходнай прававой падрыхтаванасці нашых кіраўнікоў, беспрынцыпнасці прафсаюзных арганізацый, нізкага прафесіяналізму юрыдычных службаў гаспадарчых органаў, а нярэдка і няўважлівых, бяздушных адносін да людзей. На жаль, дапушчаная несправядлівасць, неправамерныя дзеянні службовых асоб не становяцца прадметам прынцыповай размовы ў пярвічных партарганізацыях.

Выклікае трывогу стан барацьбы са злачыннасцю. Яна расце, набываючы ўсё больш арганізаваны характар і «прафесіянальную» накіраванасць. Змяняецца яе структура. Павялічваецца колькасць цяжкіх злачынстваў.

Ва ўмовах расшырэння дэмакратыі і публічнасці органы аховы правапарадку аказаліся не гатовымі эфектыўна змагацца з вельмі частымі негатыўнымі з'явамі.

Пагоршыўся грамадскі парадак на вуліцах, аслаблена барацьба з кватэрнымі крадзяжамі, спекуляцыяй, вымаганнем. Не спрацоўвае прынцып непазбежнасці пакарання — кожнае сёмае злачынства застаецца нераскрытым.

Разам з тым ускладваць віну за рост злачыннасці толькі на праваахоўныя органы было б няправільным. Працэс дэмакратызацыі не падмацоўваецца арганізатарскай і палітычнай работай партыйных камітэтаў па ўмацаванню законнасці і правапарадку.

Убаку ад гэтай важнай справы стаяць многія мясцовыя Саветы народных дэпутатаў. А іменна ж яны павінны каардынаваць дзейнасць праваахоўных органаў, грамадскіх фарміраванняў, працоўных калектываў. Асаблівага папроку заслугоўваюць выканкомы Полацкага, Барысаўскага, Аршанскага гарадскіх і рада іншых Саветаў народных дэпутатаў.

Мы забылі аб адказнасці кіраўнікоў працоўных калектываў, сакратароў партарганізацый за прафілактыку правапарушэнняў. Рэзка знізілася актыўнасць грамадскасці ў ахове парадку, застаецца нязначнай роля народных дружын.

Відавочна таксама, што праваахоўныя органы маюць патрэбу ў больш адчувальнай падтрымцы партыйных камітэтаў, Саветаў народных дэпутатаў, гаспадарчых органаў, грамадскасці. Неабходна аказваць ім пастаянную дапамогу ў вырашэнні існуючых праблем, паляпшаць ідэйна-палітычнае выхаванне і прафесіянальную падрыхтоўку іх кадраў, ствараць надзейную матэрыяльна-тэхнічную базу для барацьбы са злачыннасцю.

Толькі сумеснымі намаганнямі мы зможам радыкальна аздаравіць маральную атмасферу ў рэспубліцы, засцерагчы нашых людзей ад злачынных замахаў.

Нямала робяць для поспеху перабудовы сродкі масавай інфармацыі. Прыметная іх роля ў расшырэнні дэмакратызацыі і публічнасці, крытыкі недахопаў. І ўсё ж у чытачоў, гледачоў і слухачоў ёсць падставы быць незадаволенымі многімі акцыямі прэсы, тэлебачання. Возьмем, скажам, газету «Звязда». Бюро ЦК КПБ, якое разгледзела пытанне аб рабоце яе партарганізацыі і рэдкалегіі, адзначыла, што салідны

# Яшчэ раз пра Міхала Тварыцкага

МІХАСЬ Мушынскі ў артыкуле «Ці быў Міхал Тварыцкі ворагам народа?» справядліва ставіць пытанне пра тое, што раман К. Чорнага «Трэцяе пакаленне» ў цяперашні час павінен быць па-новаму асэнсаваны ў святле той гістарычнай праўды аб 30-х гадах, якая нам адкрылася. Асабліва важна гэта для школьнага аналізу рамана. Аднак пры ўсёй справядлівасці пастаноўкі пытання артыкул М. Мушынскага выклікае мноства сумненняў і пярэчанняў.

Перш за ўсё трэба сказаць, што ад яго павявае нечым старым, даўно забытым, калі рабіліся суды над Анегіным, над Пячорыным, калі ў крытыцы ішла «прапрацоўка» класікаў рускай літаратуры, і Пушкіна, Талстога, Дастаеўскага абвінавачвалі ў тым, што яны гэтага не ўбачылі, тое не адлюстравалі, не зразумелі і да т. п. Зусім ясна, што вяртацца да такога асэнсавання нашай савецкай класікі было б вялікай памылкай. Што датычыцца беларускай літаратуры трагічных 30-х гадоў, то трэба аддаць даніну глыбокай павагі смеласці і мужнасці многіх яе аўтараў, якія імкнуліся па-мастацку асэнсаваць складанейшыя сацыяльныя працэсы ў грамадскім жыцці той пары, зразумець сутнасць найбольш вострых канфліктаў свайго часу. Дастаткова ўспомніць «Вязьмо» М. Зарэцкага, «Хто смяецца апошнім» К. Крапівы і ўрэшце «Трэцяе пакаленне» К. Чорнага.

**Пісьменнікі 30-х гадоў не маглі не бачыць дасягненняў у галіне індустрыялізацыі краіны, у развіцці савецкай культуры, на іх не мог не ўплываць народны працоўны энтузіязм першых пяцігодак. Але важна адзначыць, што ўпэўненыя ў поспехах будаўніцтва сацыялізму і жадаючы сваёй творчасцю спрыяць гэтым поспехам, беларускія мастакі ўсё ж былі поўныя непакою за лёс народа, грамадства. Добрасумленна праводзячы мастацкае даследаванне рэчаіснасці, яны імкнуліся зразумець прыроду сацыяльнага зла, якое тады насоўвалася, з пазіцый сацыялістычнага светапогляду, з пазіцый гуманізму, зразумець яго карані. Акрамя таго, прызваныя сацыялістычнай рэвалюцыяй да актыўнай барацьбы за вышэйшыя ідэалы чалавецтва, пісьменнікі спрабавалі ў сваіх творах паказаць і мажлівыя шляхі пераадолення канфліктаў. Асабліва красамоўна даказвае гэта, напрыклад, глыбокая і мудрая камедыя К. Крапівы «Хто смяецца апошнім». З надзвычайнай праніклівасцю драматург паказаў у ёй, што эпідэмія падазронасці, «паляванне на ведзьмаў», што пачалося тады, правакуюцца кар'ерыстамі і невукамі, цёмнымі сіламі грамадства, якія нічога агульнага не маюць са светам сацыялізму. І характэрна, што выкрывае Гарлахвацкага не «вышэйстаячая асоба», а сам калектыў інстытута, які сілаю ачышчальнага смеху выганяе страх.**

Не менш вострыя жыццёвыя канфлікты даследуе і К. Чорны ў сваім рамане «Трэцяе пакаленне». Пісьменнік закранае ў ім такую небяспечную зону тагачаснага жыцця, як дзеянні варожых савецкаму строю элементаў і барацьба з імі. Напэўна, нагнятанне ў сюжэце рамана дэтэктыўных сітуацый (злачынныя дзеянні бандытаў, шпіёнаў, шкоднікаў) у нейкай меры звязана з уплывам на светапогляд мастака падманнага тэзісу Сталіна пра абвастрэнне класавай барацьбы ў нашым грамадстве па меры росту поспехаў сацыялістычнага будаўніцтва. Гіпербалізацыя гэтай тэмы ў рамане адчуваецца. Але з другога боку, нельга ж адмаўляць таго, што ў Савецкай улады, асабліва ў першыя гады пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, былі ворагі ўнутры краіны. І таму цяжка пагадзіцца з М. Мушынскім, калі ён піша: «Аўтарская тэндэнцыйнасць шкодзіць і вобразу Скуратовіча, у абмалёўцы якога пераважаюць змрочныя факты, выкрывальная інтанацыя». Вядома, не кожны моцны, багаты селянін быў міраедам-кулаком. І мы ведаем, што ў працэсе раскулачвання ў вёсцы была знішчана маса таленавітых хлебаробаў, працаўнікоў і творцаў земляробства. Але ж і кулакі-міраеды былі ў вёсцы. Агідны твар гэтага сацыяльнага тыпу разглядзелі яшчэ празаікі-шасцідзесятнікі, Г. Успенскі і асабліва раманісты-народнікі (Златаўратскі, Засадзімскі). Кулацкая праслойка ў вёсцы яшчэ ў другой палове XIX стагоддзя ўяўляла сабою сілу, якая процістаяла прагрэсіўным імкненням лепшых людзей з сялян і інтэлігенцыі той пары. І гістарычна заканамерна, што ў першыя паслякастрычніцкія гады ва ўмовах рэвалюцыйнай ломкі ўсяго ўкладу жыцця ў краіне, кулакі, закаранелыя ўласнікі тыпу Скуратовіча станавіліся ў варожую пазіцыю да Савецкай улады. К. Чорны і адлюстраваў гэта ў сваім рамане. Іншая справа, што ў 30-я гады адміністрацыйна-валявыя метады калектывізацыі нярэдка рабілі ворагамі тых людзей у вёсцы, якія маглі б імі не быць. Аднак галоўная ўвага аўтара ў рамане «Трэцяе пакаленне» была сканцэнтравана на іншай праблеме.

**Нельга не заўважыць, што дэтэктыўная лінія сюжэта — выкрыццё варожых дзеянняў замаскіраваных ворагаў Савецкай улады — не з'яўляецца вызначальнай у змесце твора. Хоць у ім дзейнічае немалая колькасць ворагаў (Толік Скуратовіч, Сцепуржынскі, Седас), праследуюць жа і судзяць перш за ўсё не гэтых шпіёнаў і шкоднікаў, а заблудзіўшага ў жыцці селяніна Міхала Тварыцкага. Менавіта яго Назарэўскі называе ворагам народа і абвінавачвае ў гатоўнасці «падтрымаць прыход усялякіх цёмных сіл, ...прадаць усялякую вялікую народную справу...» Нельга не заўважыць таксама і таго, што аўтар нідзе ў рамане не выказвае сваёй салідарнасці з пазіцыяй Назарэўскага. І тут М. Мушынскі мае рацыю ў тым, што прамова Назарэўскага даецца ў творы без усялякіх аўтарскіх каментарыяў. Але тут і не зусім яго праўда, таму што аўтарскім каментарыем, па сутнасці абвяржэннем абвінаваўчай філіпікі Назарэўскага, з'яўляецца ўся гісторыя развіцця характару Міхала Тварыцкага. Тварыцкі адлюстраваны К. Чорным хутчэй не як злачынца, а як ахвяра ненармальных сацыяльных адносін, якія існавалі ў дакастрычніцкай рэчаіснасці. Пры ўсіх сваіх недахопах Міхал Тварыцкі — гэта перш за ўсё вялікі працаўнік. Менавіта гэтая тыповая якасць селяніна і робіцца зарукай маральнага адраджэння героя. А ў канцы рамана менавіта Тварыцкі, які прайшоў праз цяжкія выпрабаванні і які пачынае разумець памылковасць сваіх старых поглядаў на людзей, на свет, уступае ў барацьбу з сапраўдным ворагам Савецкай улады. І калі раней у аўтарскай ацэнцы Тварыцкага адчуваліся і жаль, і горкая, а часам і з'едлівая іронія, то цяпер у ёй прысутнічае спачуванне, а ў канцы з'яўляецца нават нейкае адценне павагі.**

У сцэне паядынку са Скуратовічам перад намі ўжо зусім іншы Тварыцкі. У вырашальны момант стычкі, як нейкі былінны волат, сабраўшы апошнія сілы, ён узнімае ворага над зямлёю і кідае ў вір, у «Чортава вока». А цяпер спытаем сябе, ці выпадковае гэткае развіццё сюжэта, гэткія суадносіны дзейных асоб у рамане? Ці не вынік гэта разваг пісьменніка над з'явамі, звязанымі з масавымі рэпрэсіямі? І ці не ёсць гэта заклік да розуму і гуманізму, заклік давяраць свайму народу?

Асноўны агонь у крытычным артыкуле М. Мушынскага накіраваны на вобраз Зосі Тварыцкай. У сувязі з гэтым, не маючы на ўвазе аўтара артыкула, хочацца адзначыць, што зараз некаторыя людзі пад цяжкім уражаннем фактаў жудасных злачынстваў у гады сталінскіх рэпрэсій, якія адкрыліся нам, гатовы паставіць пад сумненне існаванне сацыялістычных адносін у нашым грамадстве, усумніцца ў тым, што за дзесяцігоддзі, якія прайшлі пасля Кастрычніка, у нас сфарміраваўся выдатны

**Спрэчкі, палеміка**

**Наш час нехта з літаратараў назваў часам одуму. У святле новай інфармацыі і новых фактаў па-іншаму ўспрымаюцца не толькі вернутыя народу, раней забытыя ці забароненыя творы, але і хрэстаматыйныя. Апошнія перачытаць сёння, можа, нават і важней, бо на аснове іх мы выхоўваем, вучым разуменню дабра і прыгажосці новае пакаленне.**

**Пераасэнсаванню «Трэцяга пакалення» К. Чорнага быў прысвечаны артыкул М. Мушынскага «Ці быў Міхал Тварыцкі ворагам народа» («ЛіМ» 27.1.1989 г.). На гэтую публікацыю рэдакцыя атрымала палемічны водгук Алены Ленсу, аўтара шэрагу падручнікаў і дапаможнікаў, па якіх многія з нас калісьці вучыліся. Друкуючы на старонках штотыднёвіка нататкі А. Ленсу і абагульняючы артыкул Таісы Грамадчанкі, напісаны па нашай просьбе, мы і надалей мяркуем весці трыдцыйную лімаўскую рубрыку «Старонкі спадчыны: новае прачытанне».**

# Асцярожна перагорнем старонкі...

НІКОЛІ раней не ўзіраліся мы з такой пільнай увагай у нядаўняе мінулае. Быццам не мелі ў гэтым патрэбы, загіпнатызаваныя светлай будучыняй, якая з дзесяцігоддзямі чамусьці не набліжалася, а аддалялася.

Кожны з нас бачыць пройдзены шлях па-рознаму: з большымі хібамі і меншымі, а нехта па-ранейшаму роўным і прамым. Кіпяць спрэчкі, даходзіць часам нават да суда... У арбіту пераасэнсавання трапляюць падзеі, людзі з іх справамі, творы.

Разыходжанні ў падыходзе да мінулага сталі, на маю думку, асноўнай прычынай палемікі Міхася Мушынскага і Алены Ленсу вакол рамана Кузьмы Чорнага «Трэцяе пакаленне». Здаецца, крайніх, процілеглых пазіцый гэтыя даследчыкі літаратуры не займаюць. А. Ленсу пагаджаецца з тым, каб раман асэнсаваць па-новаму «ў святле той гістарычнай праўды, якая цяпер нам адкрылася». М. Мушынскі прызнае, што твор валодае вялікай прыцягальнай сілай, і «прыцягальнасць гэтую не вытлумачыш толькі майстэрствам К. Чорнага». І адзін і другі бок адчувае момант нагнятання ў сюжэце рамана дэтэктыўных элементаў, звязвае гэта з уплывам на светапогляд пісьменніка памылковага тэзіса Сталіна пра абвастрэнне класавай барацьбы.

Аднак літаратуразнаўцы істотна разышліся ў поглядах на герояў, на аўтарскую пазіцыю. М. Мушынскі называе твор «трагічнай старонкай гісторыі беларускага народа, яго культуры, літаратуры», бачыць у ім уступкі пісьменніка вульгарызатарскай крытыцы, ідэалагічным установкам 30-х гадоў. А. Ленсу адносіць раман «Трэцяе пакаленне» да ліку тых нямногіх твораў, аўтары якіх смела і мужна імкнуліся «па-мастацку асэнсаваць складанейшыя працэсы ў грамадскім жыцці той пары, зразумець сутнасць найбольш вострых канфліктаў свайго часу».

У час палемікі досыць часта здараецца так, што апаненты асабліва не клапоцяцца, каб успрыняць палажэнне іншага ў поўным аб'ёме, а хапаюцца за нейкую яго частку, з якой не згодны. На жаль, гэта выявілася і ў артыкуле А. Ленсу. М. Мушынскі кінуў, напрыклад, папрок пісьменніку, што ў абмалёўцы вобраза Скуратовіча пераважаюць змрочныя фарбы, выкрывальныя інтанацыі. Даследчыца, пагадзіўшыся, што не кожны багаты селянін быў эксплуататарам, лічыць патрэбным нагадаць пра гістарычную заканамернасць, паводле якой у першыя паслякастрычніцкія гады ва ўмовах рэвалюцыйнай ломкі кулакі, закаранелыя ўласнікі варожа ставіліся да Савецкай улады. Але ці не дзіўна падазраваць М. Мушынскага ў няведанні ці ігнараванні данай гістарычнай заканамернасці.

**Увогуле А. Ленсу, трэба сказаць, рэзка, катэгарычна не прымае меркаванні і назіранні аўтара арыкула «Ці быў Міхал Тварыцкі ворагам народа?», быццам ён ва ўсім памыляецца і не выказаў ніводнай слушнай ці хоць бы цікавай думкі. М. Мушынскі ставіцца, па сутнасці, на адну дошку з сумна вядомымі ў гісторыі савецкай літаратуры крытыкамі-вульгарызатарамі. Бо як інакш можна разумець наступныя словы? «Перш за ўсё трэба сказаць, што ад яго (артыкула М. Мушынскага.— Т. Г.) павявае нечым старым, даўно забытым, калі рабіліся суды над Анегіным, над Пячорыным, калі ў крытыцы ішла «прапрацоўка» класікаў рускай літаратуры, і Пушкіна, Талстога, Дастаеўскага абвінавачвалі ў тым, што яны гэтага не ўбачылі, тое не адлюстравалі, не зразумелі і да т. п.».**

**Варта нагадаць, што М. Мушынскі першым у беларускім літаратуразнаўстве адважыўся на новае прачытанне класічнай спадчыны. Ён прасачыў (артыкул «Рэабілітацыя героя»), як у 30-я гады з кожным новым перавыданнем знікалі з коласаўскага «Адшчапенца» «крамольныя» радкі і абзацы. Цікава, што той, першы артыкул, нязгоды, прынамсі, публічнай, не выклікаў. За Коласа ніхто не пакрыўдзіўся. А вось за Чорнага пакрыўдзіліся.**

З А. Ленсу нельга не пагадзіцца, што аўтар «Трэцяга пакалення» вывеў пераканаўчы вобраз менавіта кулака, які не прымае і не прыме новыя савецкія парадкі. Пісьменнік у такім плане паказаў не толькі Скуратовіча, а і ўсіх іншых заможнікаў — Сцепуржынскага, Седаса, якія праз дзесяцігоддзе помсцяцца Савецкай уладзе. Калі ставіць пытанне так, як прапаноўвае даследчыца, ці з'яўлялася гэта тыповым для тагачаснай рэчаіснасці, то адказ, бадай, будзе станоўчым. Разам з тым напрошваецца і іншае пытанне: ці зводзілася шматстайнасць жыцця да такога паказу селяніна-заможніка? І тут мы павінны прызнаць, што літаратура 30-х гадоў (Чорны ў дадзеным выпадку не выключэнне) даследавала найперш і пераважна тып ворага — злоснага і жорсткага праціўніка Савецкай улады, па сутнасці, пакінуўшы адкрыццё іншых тыпаў наступнаму часу, наступным пакаленням.

Крытыкі, гаворачы пра наследаванне і развіццё Мележам чорнаўскай традыцыі, здаецца, не звязвалі напрамую герояў «Палескай хронікі» і «Трэцяга пакалення». А між тым галоўныя героі раманаў напрошваюцца на параўнанне. Чорны і Мележ даследавалі людзей аднаго часу і аднаго сацыяльнага тыпу. Так, Васіль Дзяцел мае шмат агульнага з Міхалам Тварыцкім, Ганна з Зосяй, Халімон Глушак са Скуратовічам і г. д. Аднак твор Мележа нясе ў сабе істотныя адрозненні ад рамана Чорнага, што найбольш выявілася, думаецца, у дачыненні да герояў неадназначных, супярэчлівых. Гэта Дзяцел і Глушак, асабліва апошні. Халімон таксама з тых багацеяў, для якіх новая ўлада, што костка ў горле. Разам з тым у творы выкрываюцца не толькі яго хцівасць, сквапнасць, бяздушнасць, паказваецца, карыстаючыся словамі А. Ленсу, «агідны твар гэтага сацыяльнага тыпу». Мележам не абыдзена вялікая чалавечая драма, народжаная сутыкненнем старога і новага, з-за чаго праўда жыцця набыла сваю аб'ёмнасць і складанасць.

Пэўна, няма дзіўнага ў тым, што пісьменнікі ў 60-я гады разгледзелі праўду кожнага, у заможным гаспадары дакалгаснай вёскі ўбачыўшы не толькі эксплуататара, але і руплівага, кемлівага працаўніка, што ў 80-я гады яны з усёй пэўнасцю паставілі пытанне пра антыгуманнасць так званага вялікага пералому. Кожны новы перыяд у жыцці грамадства дадае штосьці сваё ў разуменне тых ці іншых падзей. Але чаму адкрытае літаратурай пазней нясе ў сабе не проста не заўважанае ў свой час, малавядомае, а штосьці нечаканае, амаль нячутае і нябачанае? Адшукаць у літаратуры 30-х гадоў, тым больш сярод твораў, што складаюць «залаты» класічны фонд, сугучнае творам І. Мележа, С. Залыгіна, У. Цендракова альбо В. Быкава, Б. Мажаева, М. Скромнага, іншых сучасных пісьменнікаў, цяжка.

Кожны чалавек — дзіця свайго часу і ў той ці іншай ступені падзяляе ўсе яго памылкі і грахі. Гэта агульнавядома. Аднак агульнавядома і тое, што вялікім творцам дадзена ісці паперадзе свайго часу, нібы прарастаць у будучыню. Такім чынам, асноўны сэнс пытанняў, якія паўстаюць пры звароце да твораў і творчасці пісьменнікаў мінулага, зводзіцца да наступнага: наколькі змог аўтар крытычна паставіцца да існуючай рэчаіснасці, узняцца над схематызмам і нарматыўнасцю мыслення сучаснікаў, застацца верным гуманістычным прынцыпам. Здаецца, у такім ракурсе і разглядае М. Мушынскі раман «Трэцяе пакаленне».

«Вядома, мы не маем права навязваць пісьменніку грамадскія ідэалы, што склаліся ў пазнейшы час, у параўнанні з часам, пра які ён расказвае ў рамане. Але ж і вартасць мастацкага твора вымяраецца тым, як далёка яго аўтар глядзеў наперад», — слушна зазначае даследчык. А далей паказвае, што, змагаючыся са светам уласніцтва, які калечыў чалавечую душу, К. Чорны не заўважыў другую крайнасць: адчужэнне селяніна ад зямлі і працы.

Безумоўна, адчужанасць чалавека ад зямлі выявілася з усёй пэўнасцю пазней, вёска к таму часу атрымала яшчэ не адзін моцны ўдар пад дых — па спрадвечнаму ўкладу жыцця. Аднак нельга скідаць з рахунку і тое, што знайшло адлюстраванне ў «Трэцім пакаленні» і на што звяртае ўвагу даследчык: зямля, праца, увогуле вясковае жыццё пачалі страчваць для селяніна сваю каштоўнасць, прывабнасць і прыцягальнасць.

**Так, Зося Тварыцкая не за граніцу ад'язджае, як іранізуе, аспрэчваючы М. Мушынскага, А. Ленсу. Яна едзе ўсяго толькі за некалькі кіламетраў на будаўніцтва электрастанцыі. Аднак іх, думаецца, сапраўды хапае, каб гаварыць пра разрыў гераіні з глебай, на якой яна вырасла. Справа ў тым, што няма ў Зосінай душы нічога светлага, што было б звязана з вясковым светам. Можна зразумець і псіхалагічна вытлумачыць думкі жанчыны, яе агіду і нянавісць да сваёй хаты і жыцця тут па вяртанні дамоў пасля суда над Міхалам. Але ж і раней не было ёй усё гэта ў радасць. І ці толькі Мі-**

## Упершыню у «ЛіМе»

### Мікола АНТАНОЎСКІ



**Дзіўна толькі адно: чаму значна раней вершы Міколы Антаноўскага не леглі на рэдакцыйныя сталы? Адказ, мабыць, трэба шукаць у незвычайна сціплым, нават сарамлівым характары паэта. І сціпласць, і шчырасць гэтыя адтуль — ад блаславёнай зямлі Палесся, ад працавітых і сардэчных людзей, якія жывуць тут. Нарадзіўся Мікола Антаноўскі ў вёсцы Сташаны, што ў Пінскім раёне. Служыў у арміі, скончыў журфак БДУ імя У. І. Леніна, працуе рэдактарам пружанскай раённай газеты «Зара камунізму». Вершы пачаў пісаць рана, яшчэ ў школе, але вось толькі цяпер, у «хрыстовым» узросце, здважыўся вынесці іх на людзі.**

**Віктар ГАРДЗЕЙ.**

### Жыццёвая балада

Калі вайна круціла жорны
І на палескае сяло
Лёг цень, нібы асмалак, чорны, —
Мяне тады шчэ не было.

Калі загінуў дзед без вестак
І дзядзька галаву зложыў
На вышыні чужой за Брэстам, —
Я і тады яшчэ не жыў.

Ды вось у курныя зямлянкі,
Пад стрэхі збедаваных хат
Прыйшло яно зялёным ранкам,
Святое свята з усіх свят.

І слёзы радасці салдатак,
І слёзы сплаканых удоў,
І галашэнне — стогны матак
(Крый божа перажыць сыноў!),

Як кроў надзеі і пакуты,
Як сіла гневу і цяпла,
Як немач болю і атруты,
Як гордасць праўды і святла.

Гаюча, ўзбуджана, збалела
Ўліліся у спляценне жыл—
І я з'явіўся на свет белы,
Каб доўга-доўга жыць і жыць.

Я абавязан быў з'явіцца,
Каб нарабіцца:
Наарацца,
Набудавацца,
Накасіцца,
Нацалавацца, накахацца,
Нацешыцца, нагаравацца
За тых, хто кулямі абраны,
Упаў у пыл, гарачы снег,
І хто, з франтоў прынёсшы раны,
Не выйшаў ў поле па вясне,
Хто пад гармонік — жалю зброю —
Збіраў у шапку медзякі

---

Анатоль КУДРАВЕЦ

# ЛЁС І ЛЕС ЧАЛАВЕКА

**Да 50-годдзя з дня нараджэння Варлена БЕЧЫКА**

Няглядзячы на ўсякія беды, большыя і меншыя (а іх выпадае на нашы плечы апошнія гады асабліва шмат), час няспынны ў сваім цячэнні, і нішто не вольна змяніць яго ход. Застаецца толькі здзіўляцца, як хутка мяняецца ўсё, як мяняецца жыццё, як мяняемся мы. І толькі памяць утрымлівае ўсё ў стане рэальнасці, дзе мінулае застаецца такім жа паўнапраўным гаспадаром, як і цяперашняе. Асабліва, калі мінулае гэта было асветлена ўспышкай неспакойнага розуму, які бударажыў, клікаў да дзеяння і пошуку ісціны. Толькі актыўнае дзеянне набліжае да ісціны, дзе галоўнае не пустаслоўе народжанай эгаізмам псеўдамудрасці, а клопат пра чалавечае і чалавека.

Такім розумам для беларускай літаратуры апошніх двух дзесяцігоддзяў сярод іншых быў Варлен Бечык.

«Сярод іншых», бо ён не быў непрыкаяным адзінцом, горкім пустэльнікам, і ягоны лёс у многім паўтарае лёс многіх яго аднадумцаў і паплечнікаў, з якімі яму было лягчэй ісці па ачарсцвелай дарозе нашага абездухоўленага быцця.

Міхась Стральцоў, Сцяпан Гаўрусёў, Жэня Янішчыц, Вера Палтаран — вось усяго некалькі імён у жалобным пераліку самага апошняга часу.

Быў «сярод іншых». але **сам, адзіны, непаўторны.**

Цяжка думаць пра тое, што ўжо болей трох гадоў, як яго не стала,—так далёка адышоў ён ад нас у халодную бяссмертнасць. Адышоў, як ідуць туды ўсе, але і сёння не страціў сваёй чалавечай прывабліваcці для ўсіх, хто ведаў яго, — чысціні, адкрытасці, прынцыповасці.

Хударлявая хлапечая постаць яго, юначая прычоска нібы лішні раз падкрэслівалі магчымасць і перспектывы фізічнага і не толькі фізічнага росту, сцвярджалі факт, што ён толькі выйшаў у дарогу і ў яго ўсё наперадзе. Наталенне смагі пазнання жыцця (а яна сушыла яго душу ўвесь час) у яго ішло па двух напрамках: праз пазнанне прыроды, дзе чалавек—неад'емная часцінка яе нават у самых крайніх праяўленнях добрага і благога, і праз мастацтва—як элемент самапазнання чалавекам самога сябе і самавыражэння ў словах, гуках, ажываючых лініях некалі мёртвага каменю.

«І свет не перавярнуўся, і зямля круціць сваю арбіту, а жыццё гоніць свой цягнік насустрач далейшай невядомасці, хоць аднаго з пасажыраў — аднаго з тых, дзеля каго і задумваў нехта жыццё, няма. Нейкі час ён яшчэ будзе бегчы ўслед за цягніком воляй ветру, які заўсёды стараецца запоўніць утвораную жыццём пустату, —у нашай памяці, у нашым уяўленні, у нашых адчуваннях і перажываннях, адстаючы ўсё болей і болей, каб за нейкім паваротам знікнуць назаўсёды, растварыцца ў прасторы. А пасля нечакана напомніць пра сябе ўсмешкай на нечым твары, трывожным ценем галінкі, шолахам птушынага крыла, бляскам вады, у якой мільгане яго позірк».

Так запісаў я праз некалькі дзён пасля яго смерці ў 1985 годзе, да канца не разумеючы жорсткую праўду і няпраўду гэтых слоў.

Праўду, бо ўсё, што выходзіць з-пад нашага пяра вынікам нашых душэўных намаганняў, ці не з'яўляецца ценевым адбіткам жыцця, якое некалі было—цвіло, шумела, буяла, адышло ў вечнасць і непрыкаяна носіцца ў бязмежжы, чакаючы, каб нехта ўбачыў яго балесным сэрцам, прывеціў і зноў вярнуў людзям—у новай якасці, у новай абалонцы.

Новая якасць, новая абалонка—гэта так, але што яна ў параўнанні з тым сапраўдным, зямным, чалавечым, што дыхае, пазірае, спадзяецца?..

Няпраўду, бо тое зямное, чалавечае, што дыхае, пазірае, спадзяецца, што жыве, я зноў адчуў, убачыў, пачуў, перачытваючы радкі кнігі жыцця Варлена Бечыка, так дбайна адабраныя Ларысай Кароткай, яго маці і надрукаваныя ў «Полымі» (№№ 6, 7, 8, 1988).

Час, які мінуў пасля яго смерці, наклаў на ўсе гэтыя запісы і думкі покрыў нейкай містычнай таямнічасці, сцвярджаючы думку аб вечнасці чалавека, яго душы.

Чалавек піша пра сябе, для сябе, дзень за днём, год за годам, і вось ужо на нашых вачах яго постаць набывае памеры манументальныя па цэласнасці і значнасці трывог, што перасякаюцца ў яго душы, па гарманічнай закончанасці выкаваных самім чалавекам станоўчых якасцяў і імкненняў, і якасцяў і імкненняў праўдзіва чыстых, аголеных, як зубны нерв.

Гэта было сэрца рэдкага чалавека, рэдкага грамадзяніна, рэдкага працаўніка. Яно давала жыццё ўсмешлівым, спагадлівым вачам, якія шмат бачылі, шмат ведалі, шмат гаварылі і так шмат павінны былі яшчэ сказаць. Сказаць такога, чаго мы не ведалі, а ведаць павінны былі.

Мне памятаюцца яго вочы ў светлы, можа, самы шчаслівы час у яго жыцці—час закаханасці ў жанчыну. Было гэта на Нарачы, на універсітэцкай базе адпачынку, летам 1969 года. Ён змайстраваў дзве прымітыўныя вудачкі, мы ўзялі бляшанку з чарвякамі і на лодцы выплылі на ваду. Ці ён добра ведаў месца, ці нам проста пашанцавала, як шанцуе дылетантам і шчаслівым людзям, але на дзве вуды мы даволі хутка злавілі дзве рыбіны: карасіка і вугра. Карасік—ладна, а метровы вугор, на вудачку, пасярод воднай прасторы... Мы ледзь дабавілі яго да берага: на мокрых слізкіх дошках ён надзіва вёртка ўскідваўся на край борта, наровячы вярнуцца ў сваю стыхію, і мы спіхвалі яго вяслом на дно лодкі. За бортам іскрылася чыстая глыбокая вада, вячэрняе сонца забаўлялася з ёй, і гэтакім жа бляскам іскрыліся яго вочы, і сам ён усміхаўся, свяціўся нутраным шчаслівым святлом.

Дзіўная рэч: яго вочы мелі здольнасць убіраць у сябе, паглынаць акружаючыя колеры. Мы сустракаліся з ім у зялёным летнім лесе, і вочы былі зялёныя-зялёныя.

Я бачыў гэтыя вочы ў надта цяжкі для яго час, у Бараўлянах, пасля аперацыі. Абвіты чырвонымі гумавымі трубкамі ад кропельніцы, ён ляжаў адзін у двухмеснай палаце галавой да дзвярэй, і мяне ўбачыў толькі тады, калі я зайшоў у палату.

—А-а-а, Толя...—яму было цяжка нават радавацца, гаварыў ён глухім ціхім голасам, і вочы яго былі затуманены нейкім шэрым нежывым святлом.—Сядай... А мы з суседам пра цябе гаварылі... Толькі што гаварылі, а тут і ты сам...

Аказваецца, за дзень да гэтага ён папрасіў, каб яму прынеслі «Сачыненне на вольную тэму», і ён з суседам вёў гаворку пра раман. Сусед таксама быў пасля аперацыі, але ён папраўляўся і ўжо сам хадзіў. А дзень быў кастрычніцкіх свят, у калідоры грымеў тэлевізар...

Якую гаворку з суседам вёў Варлен Леанідавіч, я не ведаю. Пасароме́ўся спытаць—усё з-за таго шэрага пакутнага святла ў вачах. Праз два дні святло яго вачэй згасла назаўсёды.

І вось «Полымя», «Радкі і жыццё».

Хочацца прывесці некаторыя з тых ягоных запісаў, каб яшчэ раз далучыцца да мудрага трапятання думкі і пачуцця, якія выступаюць тут то ў форме запаведзі, то ў форме звычайнай канстатацыі фактаў,—як быццам толькі для сябе, але за якімі шырыня дыяпазону, неспакойны інтэлект, інтарэс да ўсяго зямнога.

11.IV.80 г.

«Дзіўна ж аналізуюць творы ледзь не ўсе нашы крытыкі: разглядаюць асаблівасці формы, кампазіцыю, сюжэт, стыль, нейкія якасці зместу як самацэнна галоўныя, істотныя, а не вытворныя.

Для мяне галоўнае—духоўна-эмацыянальны змест, маральнае дзеянне твора».

18.V.80 г.

«Альберта Маравіа— «Римлянка», «Презрение». Гэта ўсё перамешана са штучным; Астаф'еў, Распуцін, Абрамаў—нашмат пранікліве́й і глыбей, **народна** пішуць. Народнае—тое, што пазбаўлена эгаістычнага, рэфлексійна, гіпертрафіравана асабіста. Народнае—натуральнае, паўсядзённае, у псіхалагічным змесце карнявое, глыбіннае».

7.X.80 г.

«4-га раптоўна загінуў Пётр Міронавіч Машэраў, які меў добрую папулярнасць, і яго па-сапраўднаму шкадуюць. Іменна ён сёння здаецца самым незаменным. Кіраўнік з цёплай усмешкай, якая выклікала давер. Была веліч у яго свойскасці і сціпласці».

7.1.81 г.

«Торопись обрадовать добрым словом встречного, может быть, в жизни не придется больше встретиться».

10.XII.82 г.

«Аргенціна пацярпела поўнае паражэнне ў канфлікце за Мальвінскія астравы. З дзяцінства ва ўсіх такіх войнах кожны дзень чакаеш і спадзяешся, што горшы бок будзе пабіты і адпрэчан, але...»

12.VII.82 г.

«Рухацца, рухацца, накіроўваць сваю волю на мэту і справу, хоць кожны дзень нешта ўнутры смокча, расслабляе, не дае разгарнуцца: сны з ускладнёнай бяссэнсіцай, загадкавае пабольванне нечага ўнутры, каля сэрца, паніжаны тонус. Але што гэта перад усім тым, з чаго па-сапраўднаму пакутуюць людзі».

Так прызнаецца ён самому сабе, хоць фізічныя болі цяжкай хваробы часам даймалі яго так, што ён кідаў Мінск, кватэру, сям'ю і ўцякаў у Зялёнае, у лес. Па глыбокай чалавечай цнатлівасці толькі аднаму яму ён мог даверыць бачыць свае пакуты.

Ён любіў жыццё ў самых розных яго праявах, але болей за ўсё ў праявах, напоўненых духоўным сэнсам. Недухоўнага жыцця для яго не існавала, а ў тым на першым плане заўсёды быў клопат пра беларускую літаратуру.

Янка Купала, Уладзімір Хадыка, Алесь Дудар, Аркадзь Куляшоў, Пімен Панчанка, Аляксей Пысін, Рыгор Бярозкін, Іван Пташнікаў, Ігар Хадановіч, Анатоль Сербантовіч...

Спіс імёнаў гэтых можна доўжыць і доўжыць, і за кожным з іх ён стараўся ўгледзець і высвеціць прыкметы з'явы нацыянальна-маштабнай, звязанай каранямі з народным быццём, з гістарычнымі этапамі жыцця краіны і нацыянальнай духоўнай глебай. У адных выпадках гэтыя прыкметы слабейшыя, яны не паспелі ці не змаглі

І хто залічаны вайною
Быў у бязногія палкі...

Зямля мая! Мне дай іх сілы,
Малю: не дай мне забыцця,
Што безыменныя магілы
Таксама ёсць праця́г жыцця,
Не дай дачасна мне стаміцца,
Не пашкадуй дабра, любві...

...На свет пашчасціла з'явіцца —
Жыві, жыві, жыві!..

## Пясчанка

Крывіцкая вёска Пясчанка —
Пясчынка маёй Беларусі.
Матуляй была партызанскай,
Смяялася, плакала ў скрусе.

На хлебе сірочым з гарчынкай
Дзяцей гадавала для шчасця,
Вучыла глядзець на скарынку,
Нібы на святое прычасце.

А як выпраўляла ў свет цесны
Сыноў з-пад застрэшкаў вясковых,
То клала у торбы ім песні
Замест дарагое абновы.

Абновы набудуць... А песні?
А песні хай будзяць спаміны
Пра роднае поле прадвеснем,
І рэчку, і горкі асіннік,
Зазімак з рабінай ў каралях,
З рассохлаю лодкай на выдме...

У сэрца пясчынка запала —
Вятрам ураганным не выдзьмуць.

## Свята золата саломы

Свята золата саломы,
Ёсць такое і было,
Калі ў жылах млее стома,
Як падбітае крыло.

Набракае пылам, гулам
І звініць гарачыня.
Узмакрэлая кашуля —
Святу гэтаму радня.

Бласлаўляю жменю зерня,
Як пры першасным сяйве.
Знаю цвёрда, без сумнення:
Жыта нас перажыве.

## Дачцэ Юлі

Пад яблыняй спіць немаўля,
Гуляюць у лістоце промні.
Яшчэ не ведае зямля,
Ці гэты міг яна запомніць.

Пад яблыняй спіць немаўля,
Ранеткаю пяшчотны тварык.
Яшчэ не выспеў яблык зла
І абыходзяць бокам хмары.

Пад яблыняй спіць немаўля —
Працяг, пачатак чалавека.
Пад сонцам зорка узышла
На сто гадоў або навекі?

Пад яблыняй спіць немаўля...
Гуляюць у лістоце промні,
І добра ведае зямля,
Што гэты міг яна запомніць.

●

Свеціць над тваім парогам
Майго лёсу веташок.
Не судзі за тое строга,
Што ў жыццё тваё ўвайшоў.

Не судзі мяне за тое,
Што пад зоркай дабраты
У вяселле залатое
Веру я і верыш ты.

Не судзі занадта строга,
Спадзявацца ўсё ж дазволь,
Што і мне ёсць, дзякуй богу,
З кім дзяліць і лёс, і боль...

трансфармавацца ў форму ўпору задуманых і да канца выспеленых твораў — і гэта зразумела, у другіх, як, напрыклад, у Аркадзя Куляшова, пасля выхаду першага чатырохтомніка «...гэта новая зручная магчымасць глянуць на ўвесь творчы шлях паэта, убачыць дужанне і развіццё куляшоўскай паэзіі ад першых твораў да сённяшніх вышыняў, прасачыць яе трывалыя сувязі з беларускай нацыянальнай традыцыяй, з рускай класічнай паэзіяй і агульнаславянскай паэтычнай культурай, яе складаныя сувязі з асяроддзем і часам...»

У клопаце пра беларускую літаратуру, пра яе чысціню і дабрыню, яе чалавечнасць і багацце яскрава прасвечваецца настойлівы клопат пра большае — пра стан культуры беларускага народа, пра яго нацыянальную самастойнасць, яго мову, урэшце — пра выжыванне яго самога.

Запісы рабіліся за паўгода ці болей да Чарнобыля, і пытанне аб фізічным выжыванні беларускага народа як самабытнай нацыянальнай еднасці (пры сваёй зямлі і людзях) яшчэ не стаяла на парадку дня. Але духоўны Чарнобыль, пачатак якому паклалі страшныя для беларускай нацыянальнай інтэлігенцыі 1928-31 гады, працаваў ва-ўсю і не адно дзесяцігоддзе.

Няма страшнейшай хваробы для людзей, як бяспамяцтва. Калі забываецца карэнне — спачатку далёкае, тысячагадовае, стогадовае, а пасля і бліжэйшае. Калі дзеці адмаўляюцца ад маці, а пасля адмаўляюць маці ў мове, на якой яна спявала ім калыханку. Адмаўляюць у мове, потым у прытулку, у дапамозе.

Выгадна думаць, што бяспамяцтва жыло толькі ў мінулым, да нас і закранае толькі гісторыю. І не мы, сённяшнія, вінаваты. Што вінаваты ва ўсім Сталін.

Гэта самасуцяшэнне і самаабгавор. Чым растлумачыць, што жывога Анатоля Анікейчыка, вядомага ў краіне скульптара, дэпутата Вярхоўнага Савета рэспублікі з жывымі кветкамі ў руках у дзень Дзядоў канца 1988 года, міліцыя не прапусціла да магіл Пятра Машэрава і Уладзіміра Караткевіча? Затое мёртвага Анатоля Анікейчыка тая ж міліцыя ганаровым эскортам суправаджала на тыя ж могілкі.

Чым растлумачыць, што толькі перад самым З'ездам народных дэпутатаў, болей чым праз тры гады пасля чарнобыльскай трагедыі, рэспубліканскія газеты нарэшце апублікавалі «грыбную» карту рэспублікі, на якой заштрыхавана болей паловы тэрыторыі Беларусі — той, дзе нельга збіраць і есці грыбы. А ці толькі грыбы? А як з дзічынай і ягадамі? Як з мясам, якое пасвіцца на тых жа лугах і пералесках? Як з людзьмі, якія там жывуць?

Пытанні, пытанні... Яны як быццам не маюць прамых адносін да чалавека, якому б гэтымі днямі споўнілася пяцьдзесят гадоў, і маюць — бо яго талент, яго інтэлект, яго здароўе аддадзены служэнню свайму народу. Ён заўсёды востра, з пакорлівай гатоўнасцю ўспрымаў чужыя болькі, як свае ўласныя, і сэрца яго было заўсёды адкрыта насустрач чужому — часцей бядзе, чым радасці. Але святлом радасці заўсёды загараліся яго вочы, як толькі лёс сутыкаў яго з добрым — чалавекам, творам, прыродай, з мастацтвам, з красой. «Прад вечнаю красой» — так называе ён апошні свой зборнік. Мастацтва — гэта краса, краса — гэта праўда. І запісвае: «Праўда заўсёды высакародная. «Голой правды сила» — Кантемир. «Долг поэта в мир правду вещать» — Державин. Я. Купала:

> Не пагасіць вам праўды яснай,
> Жыў беларус і будзе жыць».

«У роднай мовы — асаблівае, светлае цяпло. Па-руску я магу напісаць лірычна, але гэта ўжо як горныя высі — не відаць усіх гэтых узлескаў, горак, не чутно роднай гаворкі, няма самай натуральнай арганічнасці — адпаведнасці слова дыханню, першаснаму перадвытоку думкі і пачуцця».

Што гэта? Прызнанне ў каханні? Клятва? Ціхая малітва на захадзе сонца?

«Такая прывабная восень — пасля пакроваў цеплыня, і ўсё яшчэ няма адчужэння ад лесу і палявых прастораў, хоць лісце ўжо злягло, і ўсё пусцее, пусцее...»

І зноў, у каторы раз, незадаволенасць сабой, несправядлівае самабічаванне, якое можна растлумачыць толькі звышпатрабавальнасцю мастака.

«Раніцой — снег, усё было белым, потым ужо дождж, але няўтульнасць была не на вуліцы, а ў сабе. Адчуванне неабавязковасці і нікчэмнасці зробленага, тлумам, разгубленасць».

Самабічаванне — яно так, але гэта часовае, што не павінна расслабляць, бо наперадзе праца — яе шмат, самай спешнай, самай адказнай, і ад яе нікуды не дзенешся, бо гэта прызванне і абавязак душы.

Ён цудоўна ведаў, што мы, беларусы, калі хочам **людзьмі звацца,** калі хочам, каб нас прымалі за людзей, як нацыя, як народ мы павінны дбаць пра сябе, пра сваю нацыянальную памяць.

Паняцце памяці не было ў яго абстрактным. Яно складалася з памяці аб канкрэтных людзях, аб іх справах, запаветных думах і памкненнях. Памяці аб тых, каго ўжо няма, і тых, хто ёсць, хто жыве аднача́сова з намі, хто побач сціпла, некрыкліва робіць сваю работу, так патрэбную беднаму краю, але пра каго мы часам так беззваражна забываем, раўнуючы то да сённяшняй славы, то да вечнасці, то да сябе. Мы гатовы спатыкацца аб іх, сарамліва адварочвацца ад іх, паспешліва абмінаць, быццам яны займаюць адведзеную нам жыццёвую прастору — і мёртвыя, і жывыя.

Дзівакі! Касмічнай прасторы і часу хапае ўсім і хопіць усім. Паспець бы толькі зрабіць тое, дзеля чаго ты з'явіўся на свет. Ён ведаў, для чаго ён з'явіўся на свет.

Ён спяшаўся пабудаваць пантэон памяці, у якім знайшлося б месца кожнаму таленту. Іх было шмат, гэтых талентаў. Не згалела, дзякаваць богу, зямля родная, і ён, як руплівы мураvей, стараўся разабрацца ў літаратурным багацці кожнага, адсеяць часовае, наноснае, прыліплае, пакінуць золата і залацінкі, глыбока перакананы, што ўсё гэта вельмі патрэбна сёння, а яшчэ болей будзе патрэбна заўтра. Бо без усяго гэтага, як паказвае гісторыя, мы ніхто і нішто. Мы — цёмны лес і голас поля, на якім кожны, каму ўздумаецца, зможа пракладваць дарогі куды і калі захоча.

### ПА СТАРОНКАХ ДРУКУ

## «Шукаць шлях да справядлівага свету...»

Праблема міжнацыянальных адносін сёння, відаць, другая па значнасці пасля экалагічнай. Яе абмяркоўваюць у друку, на мітынгах і сходах, на навуковых канферэнцыях і з трыбуны З'езда народных дэпутатаў. Праблема гэтая хвалюе людзей розных сацыяльных груп, прафесій, узростаў.

Ёй прысвечана і публіцыстычнае выступленне народнага мастака СССР, Героя Сацыялістычнай Працы Заіра Азгура ў «Вячэрнім Мінску» за 10 чэрвеня. Артыкул вядомага скульптара носіць назву «Які застанецца след...» З. Азгур дзеліцца з чытачом успамінамі аб сустрэчах з вядомымі дзеячамі мастацтва, разважае аб месцы беларускай культуры ў агульнай культуры нашай краіны.

У творчасці З. Азгура ярка выяўлены інтэрнацыяналісцкі змест. З-пад разца майстра выйшлі партрэты Кастуся Каліноўскага і Якуба Коласа, Рабіндраната Тагора і Лу Сіня, Вучэціча, Мусаргскага. Такі мастак не можа быць абыякавым да міжнацыянальных канфліктаў, якія адбываюцца сёння ў розных рэгіёнах краіны, набываючы часам трагічную афарбоўку.

«Наўрад ці мяне можна западозрыць у няўвазе да нацыянальнай самасвядомасці людзей, — піша мастак. — Я на сабе спасціг усю заганнасць нігілістычнага стаўлення да роднай мовы, да культуры. У маёй скульптурнай майстэрні Якуб Колас і Змітрок Бядуля, Рыгор Шырма і Іван Ахрэмчык, Іван Мележ і Рыгор Бярозкін, Еўсцігней Міровіч і Уладзімір Галубок вялі размовы, у якіх быў боль за выветрыванне беларускай гаворкі з грамадскага і бытавога ўжытку, замену яе на абыходкавую мову, прыдатную для службовых кантактаў. Гэткая мяшанка быццам бы рускай з вельмі блізкай да яе беларускай лексікай... Зрэшты, што і казаць, калі нацыянальная мова рэспублікі да нядаўняга часу ўтрымлівалася толькі на радыё, на сцэне і ў друку!» «Без адраджэння высокай моўнай культуры немагчымы зрухі ў духоўным і эканамічным жыцці народа», — перакананы мастак.

Не абмінае З. Азгур і вострых міжнацыянальных канфліктаў, якія напаткалі апошнім часам нашу краіну.

«Я не надта добра ведаю, абставіны, пры якіх складваліся межы паміж Армянскай ССР і Азербайджанскай ССР, гэтак жа, як не вельмі асвядомлены пра прычыны і вынікі замены лацініцы на кірыліцу ў малдаўскай мове, таму не буду гаварыць, што менавіта варта было б зрабіць, каб атмасфера варожасці была развеяна ў Ерэване і Сцепанакерце, у Кішынёве або Ціраспалі. Я ўпэўнена магу гаварыць, што кроў, пралітая ў Тбілісі 9 красавіка сёлета, аднолькава пячэ сэрцы людзей усіх нацый нашай краіны, не толькі грузін».

Але мастак верыць у жыццё, верыць у чалавечы розум: «Мне здаецца, што разгубленасць перад явай сучаснасці — з'ява для нас часовая. Хіба мы не ведаем, што гісторыя заўжды была, застаецца і будзе працэсам драматычным. Ад усведамлення гэтага не варта ўпадаць у цынізм ці шукаць прыбежышча ў скепсісе. Не, я зусім не прапаведую той казённы сацыяльны аптымізм, пра які ў недалёкі час любілі разважаць запісныя агітатары. Гаворка ідзе пра складаныя і шматварыянтныя ўвасабленні чалавечага духу, які настойліва шукае шляхі да справядлівага і дабрадзейнага свету». З гэтым нельга не згадзіцца.

НАШ АГЛЯДАЛЬНІК.

## СКАРЫНАЎСКІЯ ЧЫТАННІ Ў ГРОДНЕ

Бадай, лепшага месца для правядзення навукова-тэарэтычнай канферэнцыі «Францыск Скарына і лёс беларускай культуры», як муры колішняга базыльянскага кляштара, а зараз Рэспубліканскага музея атэізму і гісторыі рэлігіі, немагчыма знайсці. Знамянальна, што падобная падзея адбылася менавіта ў Гродне: горад усё часцей становіцца месцам правядзення канферэнцый, зместам сваім звязаных з гісторыяй, на якія з'язджаюцца знакамітыя навукоўцы са сталіцы рэспублікі і з-за межаў Беларусі. На гэты раз арганізатарамі своеасаблівых Скарынаўскіх чытанняў выступілі Рэспубліканскі музей атэізму і гісторыі рэлігіі, абласное аддзяленне Беларускага фонду культуры, Гродзенскі дзяржуніверсітэт імя Я. Купалы і абласны савет Таварыства аховы помнікаў.

Эпоха, у якую жыў Ф. Скарына, палітычнае і культурнае жыццё краю... Веды пра гэта дапамагаюць лепш уявіць сабе тыя ўмовы, у якіх фарміраваўся светапогляд вялікага асветніка і першадрукара. Расказаўшы пра войны паміж Вялікім княствам Літоўскім ды Вялікім княствам Маскоўскім на мяжы XV—XVI стагоддзяў, кандыдат філалагічных навук П. Лойка распачаў тым самым працу канферэнцыі. Доктар гістарычных навук А. Грыцкевіч спыніўся на перадумовах злучэння цэркваў у формах уніі на тэрыторыі Вялікага княства Літоўскага.

Важную інфармацыю ўтрымлівала паведамленне доктара філалагічных навук А. Мальдзіса. Яго даклад быў прысвечаны высвятленню спрэчнага дагэтуль пытання: кім жа быў па веравызнанні Ф. Скарына?

Праблемам стварэння беларускай літаратурнай мовы і літаратуры было прысвечана выступленне кандыдата філалагічных навук В. Чамярыцкага.

Новаму дакументу, які напісаны па латыні (адшуканы нядаўна ў Вільні) і пашырае нашы звесткі пра жыццё Скарыны ў сталіцы ВКЛ, прысвяціў свой даклад кандыдат філалагічных навук В. Дарашкевіч.

На канферэнцыі былі прачытаны іншыя даклады і паведамленні, якія шмат сказалі пра аблічча эпохі Скарыны і постаць яго самога, паглыбляючы нашы веды пра жыццё і працу першадрукара.

С. АСТРАЎЦОЎ.

*Тэатр: старонкі гісторыі*

**Георгій КОЛАС**

# Паядынак Марсія з Афінай

**Тры дуэты Г. П. ГЛЕБАВА і Л. І. РЖЭЦКАЙ**

КАЛІ Глеб Паўлавіч і Лідзія Іванаўна выходзілі на сцэну разам, паміж імі ці не заўжды распаляўся паядынак двух пачаткаў у мастацтве: «Апалонавага» (Ржэцкая) і «Марсіева» (Глебаў). Гэты паядынак адбываўся ў межах «мірнага сусінавання», або героі-героіні Глебава і Ржэцкай найчасцей стаялі «поплеч» і былі адно другому, мабыць, «секундантамі»: успомнім цёцю Кацю пры знявечаным пакутніку Тулягу ў Крапівы, ці Ганну пры нямožным макаёнкаўскім Гарошку. Творчы паядынак гэты «акампанаваў» галоўнаму канфлікту ў вышэйшых сферах ладу і гармоніі: нібыта кожны з іх аспрэчваў права іншага на флейту Апалона, згубленую ў марсіевым лесе Апалонавай апякункай — Афінай, а потым знойдзеную і прысвоеную Марсіем.

Мо нейкі скептык одумна ўсміхнецца: Ржэцкая — Афіна? А чаму б і не... Багіня мудрасці, заступніца герояў, абаронца цноты, грамадзянскага парадку, апякунка ўсіх рамёстваў і мастацтваў.

## ...Пустарэвіч — Глебаў Альжбета—Ржэцкая

Сват і сваццяя. Прыгадайце, як яны, пабраўшыся за рукі, выдаюць замуж «Лявоніху». Альжбета, увасабленне самавітасці, прыстойнасці, плыве, пагойдваючы галавой, нібы каштуючы мелодыю, як медавуху з кубка: ой, соладка, ой, шумліва, лепш не мае быць! А сват Пранцісь — увесь «навыварат», з каленцамі ва ўсе бакі, ён не плыве, а лётае, як «палтаргейст», рвучыся з рытму, з ладу — словам, не іначай, нейкі Барнашоў з батлеечна-скамарошага «прыслоўя» «дзе пайшоў, там і прайшоў»...

Сваццяя наракае на «цяперашнюю» моладзь, на «распуства», на «дрындушкі» — ні табе прыстойных кніжак, ні былога набажэнства.

— Так, так, пане дабрудзею, — злёту падхоплівае Пранцісь, нібы злавіўшы пушчаную сваццяй думку, і згадзіўся, што калісь было «іначай». Толькі як — іначай? Глебаўскі «мерыдыян» нічога не прымаў на веру, вымагаў аналізу. Ён лёгка, з прафесійным спрытам «доктара» вымаў з унутранай кішэні світкі пляшку, прымяраўся вокам, як праз прызму пранікаючы ў дакляраваныя Альжбетай колішнія вартасці прыстойнага жыцця, раскручваў іх вінтом, і, смактануўшы дозу дэгустатара, расчаравана абвяшчаў: «Собственна, глупства, вось цо да, было!..» Тады здавалася — ён кідаў тую рэпліку «назад». Але ж яна і сёння зноў ляціць «уперад»!

**Увявім глебаўскага Пустарэвіча з ягоным стаўленнем да моладзі ў сучаснай сітуацыі. Што азначаюць словы Пранціся, «пачутыя» Купалам: «Маладым трэба паказаць, паказаць, пане дабрудзею, а яны ўсё патрапяць»...**

**Мулявінскія «Песняры» з рок-операй «Гусляр» аб'ездзілі ці не паўсвета, а прадзюсер Бары Уайт вязе ў Маскву відэазапіс прадстаўлення пра звыш зорку рока Элвіса Прэслі. Рок «не замінае» Шнітке і Дзянісаву. Часопіс «Огонёк» сумесна з Міністэрствам аховы здароўя СССР, Савецкім камітэтам абароны міру, Міністэрствам культуры СССР, Саюзканцэртам і Міністэрствам замежных спраў СССР бярэцца за арганізацыю міжнароднай гуманістычнай акцыі «Рок супраць наркаманіі». З другога боку — вось такая інвектыва: «Мы, наследнікі Вялікага Кастрычніка, наследнікі Вялікай Перамогі сорак пятага — і пад чужую музыку? А чаму ж ні ў Еўропе, ні ў Амерыцы і нідзе ў свеце не танцуюць пад нашу музыку? «Рок» і ўсё іншае, пад што мы сёння пахабна і пачварна скачам, нарадзілася не на нашай зямлі»...**

**На чый жа бок хіснуўся б Пустарэвіч? Мне здаецца, ён заняў бы памяркоўную пазіцыю вядомага савецкага філосафа С. Аверынцава: «Нельга агрэсіўнасцю, ці злосцю, ці вар'яцтвам падмяніць сыноўнюю павагу да бацькоўскага, да роднага, якая, калі яна ёсць, — ДАВОЛІ ЦІХАЕ ПАЧУЦЦЁ, ВЫЯЎЛЯЕЦЦА НЕ ЯК ІДЭАЛОГІЯ, А ЯК ЖЫЦЦЁ». (Дыскусія ў «Дружбе народов», выдзелена мной.— Г. К.).**

**Мяне паправяць: Пустарэвіч у Купалы — праціўнік усялякіх «выкрутасаў, як у цырку ці ў вар'яцкім доме»; усялякіх «навамодных танцаў»? Ён — за родную «Чачотачку»? Што тут адкажаш... Сапраўды, «калісь было іначай». Толькі ж — прыгадаем час, калі рэпертуар Быкоўскага («гэрц-полька», «падзі-спаць», «манчыз» і «падзікватра»), аб'яднаўшыся з «Кадрыляй» і «Лявоніхай», змагаўся супраць замежных-безыдэйных танга, твістаў, блюзаў і факстротаў. «Нашымі», «ідэйнымі» лічыліся какеткі-полькі, падэграсы, падапацінеры, выдумляўся ідэалагічна-чыстакроўны танец «Тэрыкон». А Пустарэвіч быў і ёсць — неідэалагічны, і яго не варта ставіць у шэрагу апантаных абаронцаў «чыстакроўнасці культуры», пра якіх у К. Маркса іранічна сказана: «Літаратурны патрыятызм аберуч з палітычным ганарліўствам нацыі». Пранцісь — непалітычны, нелітаратурны.**

«Пустарэвіч — п'яніца»,—пісалі сумназасяроджаныя мэтры. Бог ты мой, пісаць такое, толькі прачытаўшы п'есу — мо яно і хай сабе (не кожны ўмее «ажывіць» чытанае). Але ж яны пісалі, ведаючы глебаўскага Пустарэвіча. І не заўважылі, што пляшка ў Пранціся вынырвае з кішэні не абы-калі: яна ж, як мышка ў казцы Рэдкага пра Каваля, — «шкрабецца», «шчыпаецца» якраз тады, калі пачулася мана, няпраўда, —хай сабе і дабрачынная, прыстойная, з высокімі намерамі, і нават шчырая, ад сэрца.

Вось упершыню гучыць імя Быкоўскага — Сцяпан Крыніцкі хоча пахваліцца «зяцем»: «Падлабуньваецца да маёй Паўлінкі». Ён пытае ў Пранціся: «Што ты на гэта?» Мабыць, толькі Глебаў так умеў адказваць: віртуозна, як заўсёды, даставаў з кішэні свой універсальны «інструмент», як той шкаляр-алхімік з колішніх народных інтэрмедый, — трос і круціў яго ў адваротны бок, і гэтак важна ставіў «дыягназ»: «Глупства, глупства, пане дабрудзею. Собственна, бычок». Інтэрмедыйная цытата. А праз яе — тэатр артыста Глеба Паўлавіча Глебава, які сцвярджаў на сцэне тую Тэатральнасць, карані якой сусветнае мастацтва пераймала ад народных звычаяў з усіх часоў і кантынентаў. Рэпліка купалаўскага Пустарэвіча прыўзнімала жаніха Быкоўскага-бычка да ўзроўню легендарнага Апіса — старажытнага егіпецкага бога, аб якім казалі: расстрыжы яго, і выйдзе проста бык.

Пра глебаўскія трукі з лыжкамі, відэльцамі і міскамі, якія лётаці па сцэне «самі», шмат пісалася. І пра магерку-шапку — як яна ляцела птушкай, кінутая праз плячо, не гледзячы назад: кожны раз яна трапляла дакладна ў кут на печ... Колькі іх было — канцэртных нумароў — у гэтай ролі Глебава! Ці ж усе пералічыш?! Якая тэхніка! Якая філіграннасць апрацовачнай «даводкі» — разлік! А ён іграў «імправізатара». Іграў ужо не Глебаў — сам Пранцісь іграў скамарошнага нашчадка, чыё імя і ўвекавечана Купалам у «Паўлінцы» — Барнашоў.

Дзве ролі ў ролі, вадаспад «мікраспектакляў» у спектаклі — гэта Пустарэвіч. Пустарэвічава пляшка — надзвычайны тэатральны рэквізіт! Інтэрмедыйны. Скамарошы. Цыркавы. Ці не пара ўжо нам пакаяцца перад Купалам за крытычна-непісьменныя абразы ў адрас Пустарэвіча, а заадно і ў адрас Глебава? Не п'яніцу іграў ён, не даносчыка ў паліцыю, не кулака. Гуляка-пустадомак, засцянковы цемнаваты шляхціц з беларуска-польска-рускім талерантным «вось цо да!», — ён быў ці не святлейшы і мудрэйшы ў параўнанні з намі. Мы яго — раскулачыць, ды на Салаўкі ці ў Котлас. Ён жа нам — святую асалоду радасці, традыцыю народнага мастацтва, пераняту́ю бог ведае адкуль, калі і як. Ад бога? Глебаў не «паказваў» нам яе, а ўводзіў нас у яе жывую, дзейсную — у развіццё сюжэта: Пустарэвіч станавіўся Барнашовым, каб уратаваць сватоў ад «зяця», і Альжбета—Ржэцкая раней за мужа зразумела гэта, кінуўшы на вечарынцы ў бок Быкоўскага: «Ну і дурны ж ён, як відаць».

## ...Туляга—Глебаў Цёця Каця—Ржэцкая

Нядаўна мы іх зноў убачылі — па тэлебачанні, у фільме, знятым у сярэдзіне пяцідзесятых. Там яны абодва маладзейшыя і за нас, і за тых, хто бачыў іх тады. Здавалася, што так яно і застанецца: цёця Каця будзе «цёцяй», мы — яе «пляменнікамі». Фільм пракручвалі без каментарыяў. Падумалася: як яго ўспрымаюць сённяшнія маладыя?

**Цёця Каця сёння «распадаецца» ў маёй свядомасці на трох «цёць». Убачыўшы гэтую жанчыну на сцэне ўпершыню ў сорак сёмым, я... пазнаў яе: у трыццаць сёмым-восьмым і дзевятым мы былі знаёмыя, і больш таго, я — тагачасны трэцякласнік — правяраў у Пугвін-Мысе на далёкай Поўначы яе лікбезаўскі дыктант і выпраўляў памылкі, іх было па пяць-шэсць на тры-чатыры словы (дыктавала мая маці, бо яна, сама з чатырохкласнай адукацыяй, адну зіму ці паўзімы была настаўніцай лікбеза, бацьку ж, як і ўсіх бацькоў з усіх пасёлкаў у акрузе, пасадзілі). Фразу з тагачаснага падручніка, прапагандысцкі заклік «Борись за уголь-сталь!» «цёця Каця» перакручвала на больш зразумелае, выводзячы: «Барыс за угал стал». Калі ж са сцэны я пачуў ад цёці Каці—Ржэцкай пра сабак, якім у інстытуце на Шырокай дзіркі папракручвалі ў баку: «Хіба ім не хапае дзірак, што сабаку бог даў?», — мне і ўспомніўся лікбезаўскі барэц-Барыс... І разам з тым пазнаў я ў цёці Каці—Ржэцкай тую самую дапытлівую прагнасць да навукі, што была абуджана тым часам, вабіла «цёць Кацю» і ў высылцы, насуперак яжовым рукавіцам, навучыцца хоць бы распісацца, а тады ўжо і памерці не шкада...**

У 54-м у «ЛіМе» надрукавалі маю рэцэнзію на фільм «Хто смяецца апошнім». Перачытваць-цытаваць сябе не буду, бо баюся: раптам стане сорамна. Аднак дакладна памятаю: як і большасць крытыкаў, я не згаджаўся з пераносам сітуацый п'есы «Хто смяецца...» у атмасферу «асучасненую» — у пяцідзесятыя гады.

І вось, нарэшце, я — старэйшы і за цёцю Кацю Ржэцкай, і за Тулягу Глебава. Старэйшы — па гадах, старэйшы — на Дваццаты з'езд КПСС, Дваццаць другі і Дваццаць сёмы... Вось і захацелася звярнуцца мне да цёці Каці, маладзейшай за мяне, але — «на вы» (уявім, што яна таксама «пасталела» на гады, дзесяцігоддзі і на з'езды), — вось з такім пытаннем: як нам сёння чытаць-перачытваць п'есу?

Вось што «адказала» цёця Каця. Ніякай асаблівай рызыкі ці мужнасці яна не бачыць ні ў сваіх учынках, ні ў паводзінах сваіх партнёраў па камедыі, ні ў аўтара, які наладзіў ім у гэтай п'есе атмасферу «я другой такой страны не знаю, где так вольно дышит человек». «Не вольна» дыхаецца ў п'есе толькі Гарлахвацкаму. Туляга? Дык жа ён — нявольнік па сваёй віне, навыдумляе сам сабе абы-чаго — і вось табе «дзянікінскі палкоўнік». Смех дый годзе, гэта ж недзе ў Кіеве — «палкоўнік»: па іх загаду Гарлахвацкі шкодзіў там, займаўся «разлажэннем апарату» ў нейкім інстытуце, меў ад тых «палкоўнікаў» банкеты і авацыі, але не справіўся, ледзь не засыпаўся, і вось яны яго запхнулі ў нашу «гэтую дзіру» — перачакаць, перасядзець, а ён тут шуры-муры з Зінкай Зёлкінай, папаўся, выкруціўся—на Тулягу ўсё пераваліў, а той, вядома, — смех ды грэх. Аднак кіеўскім дзянікінскім палкоўнікам цяпер хана, бо Чарнавус чытаў з газеты «Правда», што яны — «замаскированные враги народа, вредители-двурушники», і каб не «Правда», каб не тая пастанова, не было б ні нас, ні п'есы. І пры чым тут смеласць, мужнасць, што яшчэ? П'еса, створаная ўслед за пастановай, прапагандавала пастанову і была, вядома, нарматыўна актуальнай: нам своечасова давялі, што «ворагі народа» — гэта недзе ў Кіеве, а ў нас — Тулягі, дык няма чаго баяцца, варта толькі выкрыць прайдзісветаў гарлахвацкіх, мы і выкрыем!

Цяпер «праслухаем» Тулягу—Глебава. «Ды гэта ж — сацыялістычны класіцызм», — «тлумачыць» ён пра атмасферу «я другой такой страны не знаю». І далей — пра цёцю Кацю: «Ей, паводле аўтарскай канцэпцыі, было загадана так дыхаць — вольна, вось яна і дыхала, І. Левановічу было загадана. І Веры з Чарнавусам, і Нічыпару, бо ўсе яны — станоўча-нарматыўныя героі, а які з мяне герой?»

**І сапраўды. Туляга ў Глебава — «антыгерой», маленькі чалавек з «другой» і «не такой» краіны — гогалеўскай, чэхаўскай і чаплінскай планеты. Чарлі Чаплін даў ёй, той планеце, хлёсткае імя на свой, заакіянскі лад — «Вялікія часы». Ды і па-нашаму яна насіла назву ці не тую ж самую: Вялікімі былі — Эпоха, Правадыр, чын, Пачатак, Пералом. І раптам — невялічкі беспартыйны габлянагалавасценькі Туляга, — ён і нарадзіўся невялічкім, габлянагалавасценькім, дзяды і прадзеды былі, як ён, — маленечкія, дробныя, дык дзе ж яму, Тулягу, прытуліцца ў гэтых велічных «зачынах», да таго ж, па ўсім відаць, — маленькага Тулягу ці не «пераломам удавіла», як казаў калісьці пра хваробу свайго сына Дзёмка, даўні прашчур нашага Тулягі з п'есы К. Марашэўскага «Камедыя». Не ўпісваўся Туляга ў «сацыялістычны класіцызм», выламваўся з яго канонаў і сваёй хадой па-чаплінску навыварат і рваным «мультыплікацыйным» рытмам перасоўвання ў прасторы, з перапынкамі, як у пруса з вясковага запечка: варухнуўся, прыпыніўся, глянуў, зноў «за угол стал», каб не прыплюснулі, каб не злавілі. Кожны выпадковы грук ці рып здаецца скіраваным наўздагон яму, і сэрца беднага маленькага Тулягі раптам вырастае да памераў усяго Тулягі, цiснучы яму ва ўсе бакі, у скроні, у патыліцу, у кончыкі пазногцяў, у дзівосны выкрут пятаў. Гарлахвацкі бухне смачназадаволена ў далоні, нават пра Тулягу і не думаючы, сам сабе, а той, нібы прыбіты, з жахам азіраецца і бачыць, бедны, як ягонае знявечанае сэрца сціснулася, пераскочыла ў далоні Гарлахвацкага, сыплецца адтуль дадолу перацертым друзам. Кожны, хто пісаў пра Глебава—Тулягу, спрабаваў прымерыцца сваім сцілом да мізансцэны з развітальна-прывітальным жэстам, у якім Тулягава нясмелая рука ператварылася ў пагрозліва-папераджальную, ківаючы ўказальным пальцам наўздагон крыўдзіцелю.**

Ці не пара звярнуць увагу на другі, не вельмі кідкі жэст Тулягі—Глебава: як ён бярэ (у фільме!) «Правду» з тэкстам новай, ці чарговай гістарычнай «пераломнай» пастановы. Прамяністы Левановіч свеціцца ад шчасця: ну, цяпер мы выкрыем ужо — сапраўдных ворагаў народа: дыхайце глыбей, вальней, чытайце! А Туляга і не дыхае, і не бярэ газету, быццам і не чуе, бо, мяркуючы па ўсім, нічога добрага ад той газетнай пастановы не чакае. А калі газету ўсунулі яму сілком, Туляга, нават не зірнуўшы, перагнуў яе «асьмушкай», сунуў у кішэню абы-як: патэпаў прэч. І мне здалося, што гэту кінамізансцэну напісаў для Глебава — не Крапіва, не кінарэжысёр Корш-Саблін, а... Андрэй Платонаў: «Телега прогремела невдалеке мимо Чевенгура, не заехав в него: значит, жили где-то люди, кроме коммунизма, и даже ездили куда-то».

Так Туляга—Глебаў разбураў высокі нарматыўны лад «сацкласіцызму», на які стараліся



«Хто смяецца апошнім» К. КРАПІВЫ. Г. ГЛЕБАЎ (Туляга) і Л. РЖЭЦКАЯ (цёця Каця). 1965 г.
Фота Ул. КРУКА.

# І ПРАЗ ДАЛЕЧ СТАГОДДЗЯЎ...

**Што трэба зрабіць, каб нашы архівы працавалі з поўнай аддачай!**

ЗБІРАЮЧЫ матэрыялы да гісторыі Салігорскага раёна, я зноў і зноў наведваў Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў БССР у Мінску. Прыладзіўшыся ля спецапарата, пракручваў падрыхтаваныя па маім заказе ролікі-плёнкі, на якіх сфатаграфаваны дакументы, што цікавілі мяне. Уважліва, да болю ў вачах узіраўся ў цьмяныя, вельмі невыразныя адбіткі тых дакументаў. Не ўсё, далёка не ўсё ўдавалася разабраць з адлюстравання на міні-экране: назвы, прозвішчы, лічбы... А гэта ж гістарычныя матэрыялы, недакладнасці і памылкі ў абыходжанні з імі недапушчальныя.

Дык што зрабіць, калі вёску можна чытаць і так, і гэтак, а колькасць двароў у ёй і дзесяцін зямлі — падобна на такую вось лічбу і на такую? Почырк аўтара дакумента — не з каліграфічных, а пераведзены на фотаплёнку — увогуле стаў малачытэльны...

Памятаецца, аднойчы натрапіў на асабліва дарагі для мяне дакумент — «Статистическое описание заст. Ситенец (Сделано 19 ноября 1886 г.)». Родная вёска, дзе нарадзіўся, адкуль у свет пайшоў... З вялікай увагай, напружана разглядаў кожнае слова, кожны знак таго статыстычнага апісання. Ды колькі ні стараўся, дакумент мне не вельмі адкрыўся. Нібыта з маленства вядомыя, распаўсюджаныя прозвішчы вяскоўцаў... А можа, і не яны, толькі мае здагадкі? Упэўненасці не было, быў добры шанц нарабіць памылак...

Каб пазбегнуць гэтага, звярнуўся да адміністрацыі архіва. Пасля адпаведнай рэзалюцыі дырэктара, у парадку выключэння, мне выдалі арыгінал дакумента. Вось з яго вельмі выразна паўсталі тыя звесткі з гісторыі вёскі, там можна лёгка прачытаць пайменна ўсіх яе жыхароў і беспамылкова даведацца, што яна мела ў той час 72,24 дзесяціны ворнай зямлі, 5,36 сядзібнай, сенажаці — 102,96 дзесяціны...

Паступова сама сабой нарадзілася і вось ужо колькі часу не дае мне спакою неадчэпная думка пра нашы архівы. Думка-пытанне: што зрабіць, каб іх велізарнейшыя каштоўнасці з найбольшай аддачай служылі людзям, былі сапраўдным люстрам гісторыі народа і краіны?..

Як вядома, архіў дакументаў — гэта, звычайна, збор папер, на якіх тыя дакументы зафіксаваны. Вось і бяры патрэбны табе дакумент ды шукай у ім тое, што цябе цікавіць... Так яно і ішлося праз доўгія гады, праз стагоддзі. Нарэшце і архівісты, і ўсе тыя, хто меў адносіны да архіўнай справы, схамянуліся: так далей працягвацца не можа, не павінна!..

Забіць трывогу змусіў стан старадаўніх унікальных дакументаў, які ад працяглага карыстання ўсё пагаршаўся і пагаршаўся, пагражаючы дайсці да поўнай непрыгоднасці. Яно і натуральна — папера ёсць папера, даўгавечнасць яе не такая ўжо і вялікая.

Пачалі з абмежаванняў: вельмі рэдкія старадаўнія дакументы выдавалі па спецыяльным дазволе кіраўнічых таварышаў архіва. Гэта сёе-тое давала, аднак увогуле не вырашала праблемы: надыход непрыгоднасці унікальнага дакумента толькі аддаляўся, але не выключаўся.

Потым архівы ўступілі ў сваю вельмі важную пару — пару мікрафільмавання. Найбольш значныя, важныя, рэдкія дакументы былі пераведзены на фотаплёнку, якую можна пракручваць на спецыяльнай апаратуры і з адлюстравання рабіць патрэбныя выпіскі.

Здавалася б, праблема вырашана цалкам і вельмі ўдала: круці сабе плёначку, узірайся ў адбіткі дакументаў і выбірай з іх тое, што табе неабходна, тое, што ты шукаеш...

Як яно відаць, калі круціш тую плёнку, вышэй ужо гаварылася. Магчымасці здабыць патрэбныя звесткі з самага унікальнага дакумента такія, што даводзіцца толькі рукамі разводзіць. Чытальны апарат настолькі недасканалы, што нават добрая плёнка на тым экранчыку дае неакрэсленыя адбіткі, і беспамылкова прачытаць іх вельмі цяжка. А шматлікія ж плёнкі завычайна цьмяныя, невыразныя і таму малачытэльныя.

Трэба мець на ўвазе і такую акалічнасць: абсалютная большасць гістарычных матэрыялаў, якія захоўваюцца ў архівах, пісаліся ад рукі (друкаванне на машынцы з'явілася не так даўно). Значыць, і ад разборлівасці почырку таго, хто прыклаў руку да дакумента, непасрэдна залежыць яго чытэльнасць.

Калі ж бярэш у рукі матэрыялы на замежнай мове (па гісторыі Беларусі, як вядома, ёсць надзвычай шмат дакументаў, да прыкладу, на польскай мове — адзін велізарны архіў князёў Радзівілаў чаго варты!), дык разабрацца ў іх, вядома, яшчэ цяжэй. І невыразнасць адбітка, і не вельмі чытэльны почырк зноў жа робяць мала даступнымі каштоўныя дакументы, і яны фактычна не выконваюць той работы, якую абавязаны былі б выконваць, калі б былі дасканала прачытаны і глыбока вывучаны...

Дзе ж выйсце? Ва ўдасканаленні тэхнікі — чытальнага апарата? У павышэнні якасці мікрафільмавання?

Магчыма, праз нейкі час чытальны апарат сапраўды будзе кардынальна ўдасканалены і якасць фотаадлюстравання ўзнята на высокі ўзровень. Але ж, па-першае, калі тое будзе і ці будзе ўвогуле? Па-другое, ці не адмовіцца ад фільмаплёначных здымкаў архіўных дакументаў і пашукаць іншага шляху эфектыўнага выкарыстання іх?

Думаецца, такім шляхам можа быць вельмі просты, вельмі звычайны шлях — капіраванне. Сучасная тэхніка без усякіх цяжкасцей зробіць дакладную, вельмі выразную копію любога матэрыялу, а з дапамогай павелічэння — высветліць, палепшыць яго невыразныя мясціны. Пры буйных бібліятэках ужо працуюць ксераграфіі, якія аператыўна і надзейна могуць зняць копію з патрэбнага дакумента, выдання. Ксеракс, ксеракопія — сёння ўжо гэта звычайная, нават распаўсюджаная з'ява.

Дык чаму б гэтай з'яве не ўварвацца ў жыццё архіваў і дабратворна перайначыць яго?

Вядома, такое ўварванне неабходна ўсебакова прадумаць і старанна падрыхтаваць.

Перш за ўсё, зразумела, трэба вызначыць, якія з велізарнай колькасці дакументаў вартыя капіравання. Мабыць, давядзецца стварыць адпаведную камісію, якая перагледзіць усе архіўныя матэрыялы і адбярэ з іх найбольш значныя, тыя, што змяшчаюць гістарычную каштоўнасць, заключаюць у сабе інфармацыю для чаго-небудзь прыдатную.

На такую агромністую работу, вядома, спатрэбіцца немалы час. Што ж, скупіцца не трэба, нельга ж дапусціць каб па-за ўвагай камісіі засталіся патрэбныя дакументы: незаўважаныя і нескапіраваныя, яны застануцца ляжаць у архіўных сховішчах, і ніхто ніколі не будзе ведаць пра іх існаванне.

Відаць, разумным будзе, праводзячы капіраванне, рабіць адразу некалькі копій: з часам, калі асобныя з іх з-за доўгага выкарыстання стануць непрыгоднымі для далейшай працы, іх можна будзе замяніць іншымі. Так на многія стагоддзі працягнецца жыццё каштоўных архіўных дакументаў-копій. А тым часам іх арыгіналы будуць спакойненька ляжаць у спецсховішчах як НЗ (недатыкальны запас!)...

Натуральна, што, разгарнуўшы капіравальную работу, архівісты неўзабаве сутыкнуцца з неадкладнай сур'ёзнай праблемай: дзе складваць масу дакументаў-копій, якая будзе ўсё расці і расці? Спатрэбяцца адпаведныя складскія плошчы, збудаванне памяшканняў-сховішчаў для скапіраваных матэрыялаў. Гэта, безумоўна, запатрабуе і адпаведнага часу, і значных сродкаў. Але ж іншай рады няма!..

Дарэчы, у сучасны момант у шматлікіх архівах рэспублікі справы з «рабочай плошчай» увогуле, мякка кажучы, не з вельмі ўдалых. Цесната — найпершая і найбольш распаўсюджаная ў іх бяда.

Вось адзін з галаўных архіваў Беларусі — Цэнтральны дзяржаўны архіў Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва БССР. Размяшчаўся ў розных месцах, у 1966 — 1968 гг. пад яго сяк-так прыстасавалі касцёл па вул. Бакуніна — тут ён працуе і цяпер.

Што ў гэтага архіва неважнецкія справы з аб'ёмам памяшканняў, якія патрэбны для яго нармальнай жыццядзейнасці, даўно зразумелі не толькі яго супрацоўнікі і наведвальнікі, а і таварышы з адпаведных устаноў. Але ішлі год за годам, а змен не адбывалася. І вось доўгачаканая навіна — прынята рашэнне і пачалося будаўніцтва ЦДАКР па вул. Крапоткіна. Планавалася скончыць яго ў 1989 г. Аднак сёння ўжо зусім відавочна, што гэтага не адбудзецца. План перанеслі на 1990 г.

Можна было б толькі радавацца: чакаць зусім нядоўга... Але з размовы з дырэктарам архіва В. Д. Селяменевым я адчуў яго трывогу і занепакоенасць: вельмі малая надзея і на гэтую дату — некаторыя будтрэстаўскія кіраўнікі лічаць, што архіў — не такі ўжо важны і тэрміновы будаўнічы аб'ект. Можа і яшчэ пачакаць, нічога не здарыцца, калі яго і закансерваваць...

Хочацца спадзявацца, што гэтыя «кансерватары» ўсё-такі не перашкодзяць Цэнтральнаму дзяржаўнаму архіву Кастрычніцкай рэвалюцыі і сацыялістычнага будаўніцтва БССР у як мага бліжэйшы час справіць сваё наваселле.

У незайздросным становішчы знаходзіцца і яшчэ адзін надзвычай важны рэспубліканскі архіў — Цэнтральны дзяржаўны гістарычны архіў БССР. Здушаны цяснотай, ён таксама не мае магчымасці працаваць з поўнай аддачай так, каб яго вялізныя скарбы выкарыстоўваліся найлепшым чынам.

Пераведзены з Магілёва ў Мінск, архіў з 1963 г. размяшчаецца ў даволі ладным трохпавярховым будынку (вул. Казлова) агульнай плошчай 3.478 м². Здавалася б, немалая плошча. Але з таго ж 1963 г. вельмі значны яе аб'ём займае Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці, а таксама лабараторыя мікрафільмавання і капіравання. Цэнтральны гістарычны архіў разгарнуўся на астатняй плошчы, дзе вось ужо чвэрць стагоддзя і працягваецца працоўная дзейнасць яго супрацоўнікаў і наведвальнікаў, якую аптымальна плённай наўрад ці назавеш.

Калі я неяк раз завёў гаворку з дырэктарам ЦДГА БССР П. М. Судзілоўскім пра мэтазгоднасць і патрэбу скапіравання найбольш значных дакументаў архіва, ён цалкам ухваліў гэтую задуму як наспелую, прадыктаваную жыццём, і выказаў гатоўнасць падтрымаць яе. Заклапочана разважаючы пра магчымасці ажыццяўлення такой важнай справы, Пётр Міхайлавіч адразу ж назваў адну з першых і галоўных перашкод, з якой давядзецца сутыкнуцца, — адсутнасць сховішчаў для вялізнай масы скапіраваных дакументаў. Свабоднай жа плошчы ў архіва на сённяшні дзень няма аніколечкі...

У нашай размове неяк міжволі згадаўся сусед Цэнтральнага гістарычнага архіва БССР — Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці, размешчаны ў тым жа самым будынку. Гэта, так сказаць, галаўны абласны архіў. Філіялы яго працуюць у Барысаве, Маладзечне і Слуцку. Цеснавата яму, небараку, як і яго суседу, рэспубліканскаму архіву...

А што, калі б адпаведныя інстанцыі ўсур'ёз зацікавіліся лёсам гэтых вельмі паважаных суседзяў, іх «жыллёвымі ўмовамі» і аднаму з іх («маладзейшаму», абласному) у адпаведнасці з сённяшнімі яго патрэбамі прадаставілі новую «жылплошчу»? На той новай «жылплошчы» ён і разгарнуў бы сваю плённую дзейнасць. А тым часам «старэйшы» сусед (рэспубліканскі), заняўшы вызваленую вельмі ладную плошчу, не толькі пазбавіўся б ад цеснаты, а, магчыма, і атрымаў бы неабходныя аб'ёмы-сховішчы для будучых скапіраваных дакументаў.

Справу з такімі сховішчамі кожны архіў, вядома, будзе вырашаць індывідуальна, у адпаведнасці са сваімі магчымасцямі і патрэбамі.

...У мінулым годзе савецкія архівы адзначылі сваё сямідзесяціго ддзе. У 1918 г. быў выдадзены падпісаны У. І. Леніным дэкрэт аб рэарганізацыі і цэнтралізацыі архіўнай справы. Вялікі правадыр надаваў надзвычайнае значэнне архівам, гэтым надзейным захавальнікам духоўных скарбаў народа, яго гісторыі. Страту іх Уладзімір Ільіч лічыў «роўнай страшэннай бядзе».

Неабходна зрабіць усё, каб нашы архівы маглі працаваць з максімальнай аддачай, а мы маглі разумна выкарыстоўваць тыя незлічоныя багацці, якімі валодаем.

І — думаць пра іх будучыню. Каб неацэнныя архіўныя дакументы жылі практычна заўсёды. Каб і праз далеч стагоддзяў нашчадкі сённяшніх пакаленняў мелі магчымасць вывучаць і нашу глыбокую даўніну, і, вядома ж, нашу сучаснасць, якая пакіне для гісторыі свае дакументы.

Іван КУДРАЎЦАЎ.

## ДАРОГАМІ ВЫПРАБАВАННЯЎ

У «Спісе галоўных дзеячаў снежаньскага рэвалюцыйнага руху ў горадзе Новарасійску» значыцца: «Ігнат Юр'евіч Адамовіч. Важак і арганізатар. Член Савета рабочых. Скрыўся». (ЦДГА Груз. ССР, Ф. 83, ад. хр. 142, л. 1-4).

У лютым 1906 года памочнік начальніка Кубанскага абласнога жандарскага ўпраўлення ў Чарнаморскай губерні паведаміў у дэпартамент паліцыі пра Адамовіча І. Ю., селяніна Віленскай губерні Дзісненскага павета, былога рабочага-слесара майстэрні элеватара на станцыі Новарасійск. Звесткі ўнеслі ў цыркуляр дэпартамента паліцыі.

У цыркуляры дэпартамента паліцыі ад 29 лістапада 1906 года адзначалася, што Адамовіч І. Ю. прыцягнуты да следства ў якасці абвінавачанага па арт. 100 Крымінальнага Улажэння пры Кубанскім абласным жандарскім упраўленні.



**...Так пісалі пра майго дзеда. Напярэдадні першай рускай рэвалюцыі лёс закінуў беларускага селяніна І. Ю. Адамовіча ў Новарасійск. Невядома, якія абставіны падштурхнулі яго пакінуць родны край, але тут ён праявіў сваю грамадзянскую годнасць, талент арганізатара, лепшыя рысы характару змагара за праўду і справядлівасць. Новарасійскі перыяд быў толькі пачаткам жыццёвага шляху рэвалюцыянера, пасля пачаўся перыяд эміграцыі. У Стакгольме ў гэты час знаходзіўся рускі флот, на якім пачалі агітацыю рускія сацыял-дэмакраты. Напалоханы падзеямі першай рускай рэвалюцыі, царскі ўрад патрабаваў ад Швецыі выслаць у Расію пяцярых найбольш актыўных агітатараў, сярод якіх быў і Ігнат Юр'евіч Адамовіч. Новая эміграцыя, ужо Нарвегія. Тут ён з першых дзён — арганізатар калоніі рускіх палітэмігрантаў, актыўны член рабочай партыі Нарвегіі. З многімі вядомымі рэвалюцыянерамі сышліся шляхі ў Скандынавіі беларуса І. Адамовіча. Гэта М. М. Літвінаў, А. М. Калантай, старшыня Рабочай партыі Нарвегіі Кіррэ Грэн і іншыя.**

**Нарвегія стала другой радзімай для былога селяніна з Дзісненскага павета, тут у яго нарадзілася трое дзяцей. Але заўсёды ён жыў адной думкай — вярнуцца на Радзіму. Ажыццявілася мара пасля ўсталявання дыпламатычных адносін Нарвегіі і СССР у 1925 годзе.**

**Прыехаўшы ў Ленінград і ўладкаваўшы там сям'ю І. Ю. Адамовіч наведаў Беларусь. Гэта была апошняя сустрэча з роднай зямлёй: у 1926 годзе ён захварэў і памёр у Ленінградзе.**

**Пачаліся цяжкія гады для сям'і рэвалюцыянера. Яго жонку Станіславу Казіміраўну Адамовіч арыштавалі як «польскую шпіёнку», а неўзабаве забралі і старэйшага сына. Дзве малалетнія дачкі, якія не ведалі яшчэ роднай мовы, не мелі грошай на жыццё, засталіся адны. Невядома, як бы скласіся абставіны далей, каб не дапамога Н. К. Крупскай, да якой няшчасныя дзеці звярнуліся.**

**Дочкі І. Ю. Адамовіча выраслі, удзельнічалі ў Вялікай Айчыннай вайне. Старэйшы сын загінуў у лагеры, жонка была рэабілітавана з прызначэннем персанальнай пенсіі.**

**Такі жыццёвы шлях аднаго з многіх беларусаў, змагара за праўду і шчасце людзей.**

**На здымку: І. Ю. Адамовіч.**

**С. АДАМОВІЧ,**
**старшы выкладчык МДПІ імя М. Горкага.**

**На мінулым тыдні БЕЛТА распаўсюдзіла паведамленне «У Прэзідыуме Вярхоўнага Савета БССР», якое афіцыйна пацвердзіла намер арганізацыйнага камітэта Беларускага народнага фронту за перабудову «Адраджэнне» правесці ўстаноўчы з'езд новага грамадскага руху. Аднак, збіраючыся праводзіць з'езд і звяртаючыся ў Вярхоўны Савет рэспублікі з просьбай садзейнічаць яго правядзенню, прадстаўнікі аргкамітэта, як адзначаецца ў паведамленні, адмовіліся назваць поўны склад аргкамітэта, прадаставіць праекты праграмных і статутных дакументаў і паведаміць парадак дэлегіравання на мяркуемы форум. «Такая пазіцыя,—адзначаецца таксама,—не спрыяе наладжванню канструктыўнага дыялога, кансалідацыі ўсіх сіл за перабудову, забеспячэнню стварэння і дзейнасці грамадскіх фарміраванняў у адпаведнасці з нормамі Канстытуцыі і савецкага заканадаўства».**

**Каменцірубчы па просьбе карэспандэнта БЕЛТА гэтае паведамленне, намеснік міністра юстыцыі БССР У. М. Лоўчы ў інтэрв'ю пад загалоўкам «Навошта сакрэтнасць?» выказаў недаўменне пазіцыяй, занятай «арганізацыйным камітэтам фронту». На яго думку, неабходна «палітычная экспертыза» мэт, задач, форм і напрамкаў дзейнасці той ці іншай арганізацыі. «Праца вакол «з'езда»,—лічыць намеснік міністра,—вядзецца вузкім колам асоб, без удзелу працоўных калектываў, прадстаўнікоў прафсаюзных і іншых грамадскіх арганізацый, што не дае магчымасці меркаваць, як улічваюцца інтарэсы працоўных, усяго насельніцтва, іх адносіны да самой ідэі стварэння «народнага фронту».**

**Паведамленне «У Прэзідыуме Вярхоўнага Савета БССР» і інтэрв'ю «Навошта сакрэтнасць?» атрымалі шырокі рэзананс, пра што, у прыватнасці, сведчаць і лімаўская пошта, і званкі ў рэдакцыю. Напрыклад, юрыст М. І. Расевіч палемізуе з У. М. Лоўчым наконт неабходнасці папярэдняй «палітычнай экспертызы» праектаў дакументаў БНФ. Аўтары многіх лістоў, у прыватнасці, інжынер, галоўны спецыяліст ЦКБ «Спектр» В. П. Дрыбас, лічаць мэтазгодным правесці ўстаноўчы з'езд.**

**Натуральна, што пошта адной рэдакцыі не можа адлюстроўваць увесь спектр грамадскай думкі. Разам з тым, мы лічым, што погляд чалавека дасведчанага, выказаны ім у карэктнай форме, мае права на існаванне, нават калі ён разыходзіцца з афіцыйным пунктам гледжання. Зыходзячы з гэтых меркаванняў, рэдакцыя і друкуе ліст кандыдата юрыдычных навук С. Леўшунова.**

## *Служба зваротнай сувязі*

# ПРА «САКРЭТНАСЦЬ» І «ПАЛІТЫЧНУЮ ЭКСПЕРТЫЗУ»

**Лічу неабходным** выказаць шэраг меркаванняў з нагоды публікацыі «У Прэзідыуме Вярхоўнага Савета БССР» і «Навошта сакрэтнасць?» — як юрыст і член экспертнай групы аргкамітэта БНФ «Адраджэнне».

Найперш пра тое, што М. Дубянецкі і В. Жыбуль не прадаставілі дадзеных пра склад аргкамітэта, «ні іншых дадзеных аб ім». Вазьму на сябе смеласць сцвярджаць, што гэтыя дадзеныя асабліва не цікавілі ні прадстаўнікоў Мінгарвыканкома (дзе спачатку вяліся перагаворы), ні Прэзідыума Вярхоўнага Савета, бо яны ім досыць добра вядомыя. Склад аргакамітэта быў надрукаваны ў першым інфармацыйным бюлетэні арганізацыйнага камітэта БНФ, і з тых часоў не зведаў якіхсьці змен (за выключэннем хіба што часовага вываду са склада В. Якавенкі, пра што ў вуснай форме паведамлялася прадстаўнікам Мінгарвыканкома). Пра тое, што склад камітэта вядомы ўладам, сведчыць таксама і такі факт: супрацоўнік выканкома без асаблівых цяжкасцей дазваніўся да многіх яго членаў, каб высветліць, ці сапраўды рашэнне аб скліканні з'езда прынята большасцю галасоў. Атрымаўшы па тэлефоне пацвярджэнне, у гарвыканкоме, а затым і ў прыёмнай Прэзідыума Вярхоўнага Савета працягвалі, тым не менш, настойваць на тым, каб рашэнне аргкамітэта было засведчана пісьмова.

Сапраўды, М. Дубянецкі і В. Жыбуль (пры гэтым прысутнічаў і я) былі вымушаны выказаць нязгоду з гэтай просьбай. Справа ў тым, што аргкамітэт, які яны прадстаўлялі, у большсці сваёй расцаніў такую прапанову ўлад як прыклад «бюракратычных гульняў», скіраваных на тое, каб зацягнуць вырашэнне пытання, ускладніць падрыхтоўку з'езда.

Вядома, можна крытыкаваць гэтае рашэнне аргкамітэта. Трэба, аднак, прызнаць, што пэўныя падставы для насцярожанасці меліся. Вопыт, назапашаны з восені мінулага года, сведчыць: партыйныя і дзяржаўныя органы, мякка кажучы, не выказвалі жадання да «канструктыўнага супрацоўніцтва» і «кансалідацыі» з прыхільнікамі ідэі стварэння народнага руху ў падтрымку перабудовы. Дастаткова ўспомніць кампанію ў друку, выкліканую ўсяго толькі фактам стварэння арганізацыйнага камітэта.

Што тычыцца парадку дэлегіравання на мяркуемы з'езд... Асноўныя яго палажэнні былі растлумачаны М. Дубянецкім супрацоўнікам апарату Прэзідыума Вярхоўнага Савета. Пры гэтым падкрэслівалася, што колькасць дэлегатаў з'езда і нормы прадстаўніцтва ад зарэгістраваных аргкамітэтам груп падтрымкі могуць быць удакладнены толькі пасля таго, як вызначыцца памяшканне, дзе можа праходзіць з'езд. Уласна кажучы, менавіта па дапамогу ў вырашэнні гэтага і іншых арганізацыйных пытанняў і звярнуліся прадстаўнікі аргкамітэта спачатку ў Мінгарвыканком, а потым у Прэзідыум Вярхоўнага Савета рэспублікі.

У цэлым карэктнае па форме паведамленне «У Прэзідыуме Вярхоўнага Савета БССР» завяршаецца ўскосным папрокам у адрас аргкамітэта: маўляў, ствараць новую грамадскую арганізацыю трэба адкрыта. З гэтым нельга не пагадзіцца. Таму яшчэ ў лістападзе мінулага года аргкамітэт накіраваў у Прэзідыум Вярхоўнага Савета зварот, дзе, у прыватнасці, гаварылася: «Для наладжвання канструктыўнага дыялогу з працоўнымі калектывамі, партыйнымі і савецкімі органамі, грамадскімі аргнізацыямі аб задачах і мэтах руху, формах і метадах дзейнасці ствараемага Беларускага народнага фронту за перабудову «Адраджэнне», кіруючыся артыкуламі 48, 50, 51 Канстытуцыі СССР, артыкуламі 46, 48, 49 Асноўнага Закона Беларускай ССР, аргкамітэт БНФ «Адраджэнне» звяртаецца за падтрымкай да Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР. Па нашых меркаваннях, Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР, спрыяючы ўплыву грамадскіх ініцыятыў на перабудову і аднаўленне жыцця ў рэспубліцы, можа: пасадзейнічаць развіццю галоснасці — надрукаваць у рэспубліканскіх перыядычных выданнях зварот аргкамітэта БНФ «Адраджэнне» «Да грамадзян Беларусі», іншых праграмных і статутных дакументаў; вырашыць пытанне аб прадастаўленні аргкамітэту БНФ «Адраджэнне» неабходнай паліграфічнай базы для інфармацыйнага бюлетэня НФ або газеты (...). Спадзяёмся на падтрымку нашых ініцыятыў, усталяванне даверу і творчага супрацоўніцтва паміж народным рухам за перабудову і кіруючымі савецкімі і партыйнымі органамі...» Адказу, на жаль, не было. Што, дарэчы, з'яўляецца парушэннем заканадаўства аб рабоце з пісьмамі і заявамі грамадзян.

На жаль, карэктнасцю не вылучаецца інтэрв'ю тав. Лоўчага. Зноў чытаеш да болю знаёмыя, адшліфаваныя шматгадовай практыкай фразы, накшталт, «закулісныя гульні», «адхіляюць народ», «самаўпэўнена бяруцца за рашэнне лёсаў народа» і да т.п.

Спасылаючыся на адпаведны артыкул Канстытуцыі, намеснік міністра юстыцыі рэспублікі гаворыць пра «палітычную экспертызу» праграмных дакументаў. Аднак, У. М. Лоўчы замоўчвае (незнарок ці свядома), што паводле дзеючага ў рэспубліцы заканадаўства такая экспертыза магчыма толькі пасля правядзення ўстаноўчага з'езда грамадскай арганізацыі («Аб парадку зацвярджэння статутаў таварыстваў і саюзаў, якія не праследуюць мэт атрымання прыбытку, аб парадку іх рэгістрацыі і нагляду за імі» — Збор Законаў Беларускай СССР, 1932 г., № 33, арт. 146). Здаровы сэнс, якім кіруецца ў дадзеным выпадку заканадавец, падказвае, што любы праект можа быць значна зменены альбо нават адхілены ў часе яго абмеркавання на ўстаноўчым з'ездзе.

Што тычыцца матэрыялаў да праекта праграмы БНФ «Адраджэнне», дык яны публікаваліся досыць шырока (наколькі гэта дазвалялі магчымсці аргкамітэта). Дарэчы, 10 тысяч экземпляраў трэцяга нумара «Навін БНФ», дзе выдрукавана значная частка матэрыялаў да праекта праграмы фронту, былі без законных на тое падстаў, кажучы мовай міліцэйскага пратаколу, «изъяты в РОВД для дальнейшего разбирательства» пад час начнога візіту ў Дом літаратара. Такім чынам, адпаведныя дакументы ў дзяржаўных органах меліся. Пра гэта, дарэчы, сведчыць і такі вядомы мне факт: 5 чэрвеня г.г. у Прэзідыуме Вярхоўнага Савета рэспублікі адбылося пасяджэнне, на якое былі запрошаны члены-карэспандэнты АН БССР Я. Бабосаў і В. Шабайлаў, доктар юрыдычных навук А. Галаўко, кандыдат юрыдычных навук М. Матусевіч. Вучоным раздалі праграмныя матэрыялы БНФ і прапанавалі на наступны дзень падрыхтаваць заключэнне па іх. (А мяркуючы па публікацыях друку, «аналіз» праграмных дакументаў БНФ пачаўся задоўга да 5 чэрвеня).

Тое, як тав. Лоўчы жангліруе ў сваім інтэрв'ю штампамі «выступаюць ад імя народа», «пакідаючы народ у поўнай невядомасці», выклікаюць у памяці словы Т. Мана: чаго толькі не рабілася на нашых вачах і не нашых вачах ад імя народа... Аргкамітэт БНФ выразна ўсведамляе гэта. Таму ў матэрыялах да праекта праграмы БНФ ёсць палажэнне (намеснік міністра можа ў гэтым перканацца) аб тым, што «ніхто — ні палітычныя партыі, ні грамадскія арганізацыі, ні асобы не маюць права гаварыць ад імя ўсяго народа без законных на тое паўнамоцтваў». Аргкамітэт БНФ распаўсюджвае гэта палажэнне і на сябе таксама. Сёння аргкамітэт выступае толькі ад свайго імя і ад імя тых груп падтрымкі, якія палічылі патрэбным зарэгістравацца ў аргкамітэце.

Тав. Лоўчы сцвярджае на падставе публікацый у рэспубліканскім друку, што «апеляцыя ініцыятараў стварэння БНФ да масавай яго падтрымкі не пацвярджаецца на справе». Што ж, калі меркаваць па «публікацыях», гэта, мабыць, і так. Калі ж меркаваць па выніках мінулых выбараў, можна зрабіць іншыя высновы. Між іншым, пад зваротам аргкамітэта ў Мінгарвыканком з просьбай садзейнічаць правядзенню з'езда, акрамя прозвішчаў М. Дубянецкага, В. Жыбуля, У. Конана, А. Марачкіна і аўтара гэтых радкоў, стаяць подпісы народных дэпутатаў СССР В. Быкава, А. Дабравольскага, А. Жураўлёва, М. Ігнатовіча.

Час пакажа, ці стане БНФ па-сапраўднаму народным рухам. Сёння ж пэўна можна сказаць наступнае: дзеянні яго прыхільнікаў, скіраваныя на фарміраванне паўнацэннай грамадскай арганізацыі, маюць пад сабой трывалы прававы грунт у выглядзе Канстытуцыі СССР, унутранага заканадаўства і міжнародных абавязацельстваў Саюза ССР і Беларускай ССР.

**Сяргей ЛЕЎШУНОЎ,**
**кандыдат юрыдычных навук.**

### Каментарый нашага аглядальніка

**Ліст юрыста С. Леўшунова быў падрыхтаваны да друку, калі ў рэспубліканскіх і абласных газетах з дня ў дзень пачалі з'яўляцца матэрыялы пад загалоўкамі «З прыёмнай Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР», «Імя «народны» можа даць толькі народ», «Не кідаць іскру ў порах», «Не ў інтарэсах перабудовы»... І хоць тычацца яны мяркуемага ўстаноўчага з'езда грамадскай арганізацыі, але маюць характар ледзь не франтавых зводак.**

**«Вадзіцелі Лідскага грузавога аўтамабільнага парка № 3 падтрымліваюць дзеянні Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР у адносінах да арганізацыі Народнага фронту Беларусі. Лічым недапушчальным...», «Мы, рабочыя і служачыя райаграпрамтэхнікі Касцюковіцкага раёна, не ведаем мэт і задач гэтай самазванай арганізацыі...», «Калектыў Валожынскага СПТВ-208, азнаёміўшыся з матэрыялам «Навошта сакрэтнасць?», палічыў неабходным зрабіць наступную заяву... Не можа групка людзей выступаць...»**

**«Асуджаем іх учынак», «нам не патрэбен яшчэ адзін прадстаўнік народа», «спрабуюць унесці дэстабілізацыю», «паэкстрэмісцку настроеныя людзі», «спекулююць на аб'ектыўных цяжкасцях», «мы супраць»...**

**Стоп! Што ж адбываецца ў нас «на тэатры ідэалагічных дзеянняў»? Хто так напалохаў у адначассе настаўнікаў СШ № 1 г. Шклова, партарганізацыю ПМК-97 Хоцімскага раёна, клічаўскіх электрыкаў, актыў вытворчага аб'яднання «Камсамолка» і нават спецыялістаў калгаса «Гігант» з Бабруйшчыны, што яны раптам збіраюцца на сходы і прымаюць стандартныя рэзалюцыі недаўмення, абурэння і пратэсту? Чаму зноў у рэспубліцы нагнятаецца адмоўная электрычнасць, нагадваючы прыкрыя падзеі мінулай восені?**

**І справа нават не ў стаўленні да тых ці іншых захадаў аргкамітэта БНФ. Як жа яшчэ лёгка, аказваецца, адкінуць набытыя з такой цяжкасцю крупінкі грамадзянскай годнасці і разважлівасці і ўзняць чарговую хвалю сацыяльнай дэмагогіі!**

**Раз, — і пачалі штампаваць траскучыя рэзалюцыі, звыкла не ўдумваючыся ў іх сэнс. Напрыклад, сход-мітынг (!) прадстаўнікоў (?) працоўнага калектыву Мінскага ГУМа заклікаў усіх «накіроўваць энергію на выкананне рашэнняў З'езда народных дэпутатаў». Мілыя гаспадыні секцый мужчынскага, жаночага і дзіцячага адзення, ну якія рашэнні ўсім нам трэба кінуцца зараз увасабляць у жыццё, — аб стварэнні пастаянных камісій і камітэтаў Вярхоўнага Савета, аб распрацоўцы дэпутацкага статуса?! Мусіць, гэта два бакі аднаго медаля — «не ведаем, але рашуча «за» і «не ведаем, але рашуча «супраць»...**

**Далей больш. Можна хоць сто разоў перачытаць сямідзесяціраднковае паведамленне «У Прэзідыуме Вярхоўнага Савета БССР», але там няма ані слова пра парушэнне аргкамітэтам заканадаўства (дарэчы, і намеснік міністра юстыцыі ў інтэрв'ю «Навошта сакрэтнасць?» хутчэй маралізуе, чым аперыруе прававымі нормамі). Між тым, рэзалюцыі ледзь не крычаць: «парушэнне агульнапрынятых (?) заканадаўчых актаў!», «працізаконныя, антыдэмакратычныя, спекулятыўныя дзеянні», «падрыў сацыялістычных дзяржаўных асноў»... Ці не занадта моцна? І для тых, хто такое піша, і для тых, вядома, хто такое друкуе.**

**Яшчэ адно назіранне, якое, мабыць, трэба аднесці да разраду кур'ёзаў. Па незразумелых прычынах (хтосьці недагледзеў ці, наадварот, перастараўся), але працоўныя Магілёўшчыны пратэстуюць гучней за ўсіх. Пераважная большасць змешчаных у газетах рэзалюцый менавіта з гэтага рэгіёна рэспублікі, у тым ліку чамусьці аж тры — са старажытнага горада Шклова...**

**Распачатая ў друку кампанія не можа не засмуціць. Тым больш, што адбываецца яна неўзабаве пасля З'езда народных дэпутатаў СССР, з трыбуны якога яшчэ раз на поўны голас прагучаў заклік да дыялога і супрацоўніцтва ўсіх грамадскіх арганізацый і рухаў. «На жаль, — пішуць у «ЛіМ» настаўнікі з Рагачова А. Аляхновіч і М. Клеба, — гэтая простая думка з цяжкасцю ўсведамляецца ў рэспубліцы. Тым самым шмат якія хваробы не лечацца, а зноў заганяюцца ўглыб. І ўзнікае пытанне — хто ж на самай справе штурхае розныя сацыяльныя пласты беларускага народа да канфрантацыі?» А вось развагі згаданага ўжо інжынера В. Дрыбаса: «Заклік да кансалідацыі ўсяго грамадства ўяўляецца утапічным. Больш таго, гэта любімая зброя «кансерватараў», якія ў кожнай крытыцы бачаць спробу «ўбіць клін паміж народам» і тым, хто крытыкуецца (партыя, армія і г.д.). Неабходна аб'яднанне ўсіх прагрэсіўных сіл грамадства. Улічваючы, што большую частку грамадства складаюць беспартыйныя, найбольш мэтазгоднай формай такога аб'яднання з'яўляецца народны рух, адкрыты для ўсіх членаў грамадства. Пры супадзенні асноўных мэт, як руху, так і партыі, не павінны палохаць магчымыя адценні ў падыходах да ажыццяўлення гэтых мэт. Поўнае аднадум'е і манаполія на ісціну, як вядома, вядзе да застою».**

**Як бачым, калі людзі задумваюцца па-сапраўднаму і самастойна, то замест забараняльных воклічаў з-пад пяра выходзяць цвярозыя і канструктыўныя меркаванні і высновы.**

**Андрэй ГАНЧАРОЎ.**

# УГАВОРЫ І АДГАВОРКІ

**У школах рэспублікі завяршыўся навучальны год, на працягу якога нашы чытачы выказвалі незадаволенасць марудлівымі тэмпамі, з якімі, на іх думку, пераадольвалася інерцыя застойных адносін да роднай мовы. Што ж сапраўды адбываецца ў нашых школах? Ці памяняліся ў іх адносіны да роднай літаратуры і мовы? Што спрыяе і што перашкаджае весці гэту работу? Каб пашукаць адказы на гэтыя пытанні, наш карэспандэнт і адправіўся ў камандзіроўку.**

У БАБРУЙСКУ з 30-ці агульнаадукацыйных школ няма ніводнай беларускай. Не адразу паверыў, што ў чвэрцьмільённым горадзе з большасцю беларускага насельніцтва магло такое адбыцца. Сумненні развеяла сустрэча з загадчыкам Бабруйскага гарана Л. М. Міхалапам:

— Два гады назад мы хацелі стварыць беларускую школу — не набралася неабходнай колькасці дзяцей. Пасля вырашылі ўзяцца за беларускія класы — вынік той самы. У Статуце школы запісана, што вучні маюць права па жаданні выбіраць мову навучання, а гэта — спакуслівая спасылка для тых, хто вызваляе сваё дзіця ад беларускай мовы.

Сапраўды, Статут школы быццам спецыяльна напісаны для адмоўцаў, для прыхільнікаў толькі мовы міжнацыянальных зносін. Напрыклад, заходзіць у пакой да дырэктара школы чарговы чалабітнік з заявай: «Прашу вызваліць маё дзіця...» Дырэктар, якім бы ён ні быў патрыётам роднай Зямлі, валодае вельмі мізэрнай уладай, каб не падпісаць прашэнне, у якім спасылка на ўжо вядомы дакумент. Заўважым, гэты пункт у такой рэдакцыі ў афіцыйных дакументах з'явіўся ў 1958 годзе, калі аб'явілі ўсяму свету аб фарсіраванні тэмпаў камуністычнага будаўніцтва і зліцця моў і культур.

— Дапусцім, я не вызваляю чыёсьці дзіця ад вывучэння беларускай мовы, — дзеліцца сваімі думкамі дырэктар СШ № 2 М. Р. Плаксіцкі. — Той заяўнік адразу піша скаргу ў Міністэрства народнай адукацыі, а там вырашаюць пытанне аб'ектыўна, згодна літары закона. Пасля пакрыўджаны бацька наведвае мяне яшчэ раз і папракае за тое, што я не падпарадкаваўся афіцыйнаму цыркуляру.

У СШ № 1 ад вывучэння беларускай мовы вызвалена каля 100, у СШ № 2 — каля 300 чалавек. Гэта, так сказаць, інфармацыя для роздуму. Можна ўявіць, наколькі ў такой сітуацыі складана працаваць настаўніку беларускай мовы. «Вызваленцы» сноўдаюцца па класах і калідорах, перашкаджаюць весці заняткі. Адзіны паратунак — паставіць урок беларускай мовы першым ці апошнім.

У СШ №2 настаўнікамі беларускай мовы і літаратуры працуюць Н. К. Бабак і Г. Д. Мазан.

— Дзеці адносяцца да беларускай мовы як да нечага непатрэбнага. Так сказаць, лішняя нагрузка, не больш. «Я патрыёт, і мне беларуская літаратура не трэба!» — заяўляе на ўроку дзевяцікласнік. Недарма з педвузаў уцякаюць дзяўчаты, баяцца, што напішуць ім у дыпломе «настаўнік беларускай мовы», трапяць пасля ў горад — паспрабуй, знайдзі работу. Калі ў беларускай школе рускую мову вывучаюць па групах, неабходна, каб і ў рускай школе беларускую мову вывучалі гэтак жа. Пажадана ўвесці правіла: пры паступленні ў навучальныя ўстановы, калі ты скончыў школу на тэрыторыі Беларусі, пісаць сачыненне па-беларуску.

У школе беларуская мова апынулася ў ролі падчаркі, якая стала нелюбімай не толькі для дзяцей, але і для настаўнікаў. Пра «мінігадзіны» на яе вывучэнне мы не раз пісалі.

— Школьная праграма ўсталёўвае абыякавыя адносіны да настаўнікаў беларускай мовы і літаратуры, — гаворыць намеснік дырэктара СШ № 16 Л. Ф. Барабанава. — Напрыклад, у 4-ым класе на рускую мову выдзелена 9 гадзін, на замежную 4, а на беларускую 3 гадзіны. Што можна зрабіць за такі час?

З-за гэтых запланаваных гадзін настаўнік беларускай мовы апынуўся ў вельмі незайздросным становішчы. Каб атрымаць стаўку 18 гадзін, яму неабходна вучыць 6 класаў, а настаўніку рускай мовы — 2 класы. Вазьміце 6 класаў па 40 чалавек у кожным. Аднаму настаўніку неабходна праверыць недзе 240 сшыткаў, яго ж калега, для параўнання, прачытвае 80. Ніхто не прыніжае настаўніка рускай мовы і літаратуры — яму спраў таксама хапае, але дзе справядлівасць?

Як пра вялікую сенсацыю ва ўсіх школах Бабруйска мне гаварылі пра паглыбленае вывучэнне беларускай літаратуры ў СШ № 17 (праўда, адны чулі, што там існуюць цэлыя беларускія класы, другія пераконвалі, што гэта толькі ў перспектыве). Што ж гэта такое — школы з паглыбленым вывучэннем беларускай мовы і літаратуры?

— У тыдзень на беларускую літаратуру нам дадаткова выдзелены 2 гадзіны, — расказвае настаўнік беларускай літаратуры СШ №17 В. В. Навічэнка. — Канешне, гэтага вельмі мала. Да таго ж, у нас усё зарэгламентавана. Чаму б не дазволіць нам творча падыходзіць да сваіх урокаў, самім выбіраць цікавыя вучням творы? Па старой звычцы нам распісваюць, што вывучаць, а што не. Гэта абмяжоўвае нашу ініцыятыву.

Мяне чакала ў Бабруйску яшчэ адна цікавая навіна: у горадзе сад-яслі № 45 з беларускай мовай навучання. Я не расчараваўся, наведаўшы гэты садзік, хоць да вызначэння «беларускамоўнай дзіцячай установы» яму яшчэ далёка. Загадчыца садзіка Т. І. Глебава расказвала пра ўсё шчыра, без жадання пусціць пыл у вочы:

— Атрымліваецца далёка не ўсё, што хацелася б. Не хапае ў нас кніг і наглядных дапаможнікаў, сцэнарыяў правядзення ранішнікаў. Старшы выхавацель Я. Рымарава шукае матэрыялы па розных выданнях, выразае неабходнае, перакладае, — так і круцімся. У часопісе «Народная асвета» ў 1988 годзе для работнікаў дашкольных устаноў было надрукавана ўсяго 8 матэрыялаў. Педагогі прыходзяць з вучылішча, не ўмеючы звязаць і двух слоў па-беларуску.

Радасць уперамежку з пачуццём віны перад дзецьмі адчуў я і на ўроку ветэрана працы, настаўніка беларускай мовы і літаратуры СШ № 16 В. П. Гарэліка. Ішла гаворка пра апавяданне Я. Коласа «Соцкі падвёў». Я сядзеў і бачыў, колькі душы ў свой прадмет укладвае настаўнік і як цяжка «ламаць» язык, пераходзячы на беларускую мову, яго вучням, большасць з якіх — беларусы. Добра памятае В. П. Гарэлік, як у 50—60-ыя гады ўсе школы горада, за выключэннем 12-ай і 21-ай, былі беларускімі і як неўпрыкмет іх пераводзілі на рускую мову навучання...

Бабруйск — гэта Магілёўшчына. А як справы ў іншых рэгіёнах, напрыклад, у цэнтральнай частцы рэспублікі? Скажу адразу: цяжкае пачуццё безвыходнасці развеялася, калі я наведаў некалькі школ Вілейшчыны. На ўроку геаграфіі ў 5-ым класе Ільянскай СШ усе дзеці гаварылі на той роднай меладычнай мове, якая нараджаецца натуральна ў чалавеку і жыве разам з ім. Дырэктар школы І. М. Соніч сцвяр-

# НАПІСАНАЕ ЗАСТАЕЦЦА...

**«Антон Раманавіч Жэбрак — генетык і селекцыянер. Акадэмік АН БССР з 1940 г. (...) У 1930 — 1931 гг. спецыялізаваўся ў ЗША і Германіі (...) У 1940 — 1947 гг. член Прэзідыума АН БССР. У 1947 г. прэзідэнт АН БССР. У 1948—1949 гг. прафесар Маскоўскага лесатэхнічнага інстытута...» («Акадэмія навук Беларускай ССР». Мінск, «БелСЭ», 1979 г. с. 470).**

**У «ЛіМе» за 9 чэрвеня г. г. быў змешчаны калектыўны ліст навуковых супрацоўнікаў некалькіх інстытутаў АН БССР. У ім ставілася пытанне аб адказнасці тых, хто ў 30 — 40-ыя гады ажыццяўляў палітыку «народнага акадэміка» Лысенкі — палітыку, ахвярамі якой сталі акадэмік Жэбрак, іншыя выдатныя беларускія вучоныя.**

**Хто і якімі метадамі праводзіў палітыку лысенкаўшчыны? Што адбывалася ў Акадэміі навук БССР у канцы 40-х гадоў? І, нарэшце, ці не сустракаемся мы з небяспечнымі рэцыдывамі лысенкаўшчыны ў нашы дні? На гэтыя пытанні спрабуе даць адказ у сваім артыкуле кандыдат біялагічных навук Л. Тарасенка.**

КАЖУЦЬ, што праўда рана ці позна перамагае. Так, ды толькі, як сведчыць наша гісторыя, нярэдка гэта адбываецца менавіта «позна». Сёння, калі краіна ачышчаецца ад рэшткаў сталіншчыны, многае становіцца на сваё месца. Дзесяткі, сотні імёнаў вяртаюцца да нас пасля рэабілітацыі. На жаль, толькі імёны. Між тым, некаторыя з тых, хто цкаваў, «выкрываў» і ганьбіў сумленных людзей, яшчэ і сёння працягваюць «правіць баль».

Пагром, учынены лысенкаўшчынай у 30—40-ыя гг. у біялогіі, адкінуў навуку далёка назад. Савецкія вучоныя, якія ў многіх галінах біялогіі ў канцы 20-х — пачатку 30-х гадоў займалі самыя перадавыя пазіцыі ў свеце, былі разагнаны, рэпрэсіраваны, вынішчаліся фізічна і духоўна. У краіне спыніліся працы па медыцынскай генетыцы, шэрагу напрамкаў эксперыментальнай і тэарэтычнай біялогіі — якраз тых, што ў 50—60-ыя гады прывялі да фарміравання самых плённых і перспектыўных напрамкаў: малекулярнай біялогіі і генетыкі, а пазней геннай інжынерыі. Адставанне ў гэтых галінах біялогіі адчуваецца і сёння.

Водгулле тых змрочных падзей не абмінула і Беларусь. Успомнім, што адбывалася ў рэспубліцы пад час лысенкаўскага шабашу ў 40-ыя гады. 11 кастрычніка 1947 г. у газеце «Літаратура і мастацтва» быў змешчаны артыкул «Ганебны ўчынак прафесара Жэбрака», які падпісалі М. Замяцін, М. Дарожкін, А. Лапо і В. Шэмпель. Чым жа прафесар Жэбрак выклікаў гнеўнае абурэнне калег? Чытаем: «Цяжка паверыць, каб вучоны нашай краіны змог зганьбіць сваё савецкае першародства, падаючы ніц перад замежнымі рэакцыянерамі. (...) Прафесар Жэбрак выступіў у ролі паклёпніка на выдатнага савецкага вучонага акадэміка Лысенку ў рэакцыйным друку, які выконвае волю тых падпальшчыкаў вайны, што імкнуцца падарваць магутнасць нашай Радзімы. (...) Жэбрак працягнуў руку такім злосным паклёпнікам, як прафашыст Карл Сакс, які ў амерыканскім часопісе «Навука» хлусліва гаворыць, што ў СССР біялагічная навука зусім не развіваецца. Толькі чалавек, які пазбаўлены пачуцця савецкага нацыянальнага гонару, мог не заўважыць непамернай перавагі савецкай навукі над сучаснай рэакцыйнай навукай буржуазнага свету...»

У гэтым траскучым наборы досыць звычайных па тым часе штампаў важна не абмінуць вось якую дэталь. Справа ў тым, што «прафесар Жэбрак» у той час з'яўляўся **акадэмікам!** А зварот да акадэміка «прафесар Жэбрак», а то і проста «Жэбрак», у тыя часы жорсткай субардынацыі быў нечуванай нетактоўнасцю, калі не сказаць хамствам. Больш таго, аўтары артыкула «Ганебны ўчынак...» — супрацоўнікі тагачаснага ІСГГ (Інстытута сацыялістычнай сельскай гаспадаркі) АН БССР смела выступілі супраць... **прэзідэнта** Акадэміі навук!

Адкуль жа такая смеласць, і што, акрамя агульных абвінавачванняў у ігнараванні дасягненняў «савецкай мічурынскай генетыкі», ставілася ў віну акадэміку Жэбраку? А вось што: «Ён скажае вынікі работ акадэміка Лысенкі, заяўляючы, што яны заснаваны на «наіўных і чыста разумовых заключэннях» і што яны, быццам бы, перашкаджаюць паспяховаму развіццю генетыкі ў СССР...»

Дарэчы, аўтары артыкула «Ганебны ўчынак...» узяліся «крытыкаваць» акадэміка Жэбрака праз два гады пасля таго, як той «учынак» быў зроблены ў 1945 годзе, калі Жэбрак працаваў у Маскве. Але трэба ўявіць сабе колішнюю палітычную сітуацыю ў краіне, каб зразумець «смеласць» апанентаў Жэбрака. Гэта быў час абвешчанай самім Сталіным барацьбы супраць «пакланення Захаду, хамелеонаў і касмапалітаў», а ў біялогіі і асабліва ў генетыцы, як вядома, былі шырока распаўсюджаны ідэі, аўтарамі якіх былі, на жаль, не савецкія вучоныя. Гэта сёння мы прыходзім да высновы, што дакладныя навукі не могуць дзяліцца на «нашу» і «не нашу», а ў той час паходжанне той ці іншай тэорыі ці ідэі моцна ўплывала на лёс яе прыхільнікаў. Ці ж дзіўна, што лысенкаўцы не ўпусцілі шанц адным ударам расправіцца са сваімі навуковымі апанентамі далёка не шляхам эксперыментальнага абвяржэння.

Трэба сказаць, што ўжо 6 сакавіка 1947 г. у «Ленинградской правде» быў надрукаваны артыкул «Борьба идеологий в биологической науке». Яго аўтар І. Прэзент, адзін з галоўных памагатых «народнага акадэміка» Лысенкі, сярод усяго іншага, пісаў: «...прафесар.., які цягне адну і тую ж ноту з панам Саксам», «А. Жэбрак, які... поўнасцю салідарызуецца з прафашыстам Саксам у ацэнцы тэарэтычных дасягненняў нашай савецкай перадавой школы біёлагаў, мічурынскай школы, якую ўзначальвае акадэмік Лысенка». Аднак чамусьці асаблівага рэзанансу гэты артыкул не меў. Больш таго, «прафесара Жэбрака» праз паўтара месяцы выбіраюць прэзідэнтам Акадэміі навук БССР. Ды толькі лысенкаўцы не збіраліся складваць зброю, і 2 верасня 1947 г., на гэты раз ужо ў «Правде», з'яўляецца разгромны артыкул І. Лапцева, дзе гаворыцца аб тым, што А. Жэбрак «зневажае і паклёпнічае на нашу перадавую савецкую навуку і яе выдатнага сучаснага прадстаўніка Т. Д. Лысенку». «...Трэба згубіць пачуццё патрыятызму і навуковага гонару...» — і далей у такім жа духу.

Як бачым, М. Дарожкіну з сааўтарамі не было патрэбы вынаходзіць веласіпед. Ім заставалася толькі перакласці некаторыя цытаты са згаданых артыкулаў на беларускую мову. Зразумелым цяпер становіцца і апошні абзац палітычнага даносу «Ганебны ўчынак прафесара Жэбрака». «Прайшло ўжо больш месяца. Сельскагаспадарчая акадэмія імя Ціміразева паспела ўжо сабраць вучоны савет і **асудзіць,** а ў нас гэтай справы яшчэ не абмяркоўваў Прэзідыум АН БССР. **Вось чаму мы вырашылі звярнуцца з гэтым лістом** у рэдакцыю газеты «Літаратура і мастацтва» (падкрэслена мною. — **Л. Т.**).

Што было галоўным матывам дзейнасці аўтараў «Ганебнага ўчынку...», ведаюць дакладна толькі яны самі. Мы зараз можам толькі выказваць свае меркаванні. Можа, аўтары даведаліся (ці ім падказалі), што прэзідэнту хутка давядзецца развітацца з крэслам? Ці група супрацоўнікаў з Інстытута сацыялістычнай сельскай гаспадаркі ўявіла сябе паўнамоцным калектыўным прадстаўніком Т. Д. Лысенкі на Беларусі? Так ці інакш, але зварот трох загадчыкаў аддзелаў на чале з дырэктарам інстытута быў пачуты.

Звернемся да афіцыйных крыніц. У юбілейным выданні да 50-годдзя АН БССР «Акадэмія навук Беларускай ССР», якое выйшла ў свет у 1979 г., аб падзеях кастрычніка—лістапада 1947 г. цнатліва гаворыцца:

«У лістападзе 1947 г. адбыліся першыя пасля вайны выбары акадэмікаў і членаў-карэспандэнтаў АН БССР. Акадэмікамі былі выбраны С. І. Чубкін, М. І. Грашчанкоў (далей ідзе пералік).

У першыя пасляваенныя гады ў кіраўніцтве АН БССР адбыліся змены. З мая па кастрычнік 1947 г. прэзідэнтам АН БССР працаваў выдатны савец-

